РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ-ВІЛЬНЯ-БЕЛАСТОК ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 21 (76) 1 – 7 ліпеня 1994 г. Кошт 300 рублёў

*Палажэньне ў 20-х гадах можна ахарактарызаваць адным словам - застрашанасць. Гэта быў вынік ваеннага тэрору.*

*Каму ён патрэбны, гэты Васька? У Бекера няма патронаў, а дворнікі ловяць кошак у гаспадарчыя сеткі.*

*Барбара Стрэйзанд адмовілася раскрыць сакрэт, куды скарыстае грошы, атрыманыя ад продажу калекцыі.*

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ:** *Менск – Варшава – Масква.*

# НЯ ТРЭБА ЦЯГНУЦЬ КОЎДРУ НА СЯБЕ

Непрыемнае ўражаньне пакінула рэпліка А.Сідарэвіча, сябры выканкама БСДГ, зьмешчаная ў "Звяздзе" на наступны дзень пасьля першага тура выбараў Прэзідэнта Беларусі. Калі б яе напісаў шэраговы "грамадовец" - іншая справа, а так - адзін з кіраўнікоў партыі.

Спадар Сідарэвіч піша: "Вынікі першага тура выбараў абнадзейваюць... Пазіцыі дэмакратаў у параўнаньні з 1990 годам умацаваліся." У той жа час нароўні з камуністамі ён крытыкуе й БНФ, у прыватнасьці З.Пазьняка. Партыю БНФ ён лічыць "надта саманадзейнай", у зьдзеклівым тоне піша пра ўсё, што датычыцца яе лідэра. Цяжка зразумець, каго шаноўны спадар Сідарэвіч лічыць дэмакратамі. Няўжо сябры БНФ, на яго думку, імі ўжо не зьяўляюцца?

Далей ён адзначае: "Сацыял-дэмакраты, лібералы з АДПБ (Аб'ядната-дэмакратычная партыя Беларусі - Д.А.) і "зялёныя", якія падтрымлівалі С.Шушкевіча, - партыі маладзейшыя, яны ня мелі вопыту 1990 года, але не нашмат адсталі ад партыі Пазьняка й яе саюзьнікаў..." А што АДПБ, Грамаду А.Сідарэвіч ужо ня лічыць саюзьнікамі БНФ? Не магу пагадзіцца з тым, што Пазьняк не нашмат апярэдзіў Шушкевіча. "Шмат" і "няшмат" - паняцьці абстрактныя, а лічбы кажуць самі за сябе: больш за двесьце тысяч галасоў выбаршчыкаў. Калі разважаць згодна логіцы спадара Сідарэвіча, то лідэр БНФ не нашмат адстаў ад прэм'ера. Ня зусім згодны таксама з тым, што партыі, якія падтрымалі С.Шушкевіча, ня мелі вопыту 1990 года. Сапраўды, партыі ня мелі, але ж іх лідэры й сябры былі ў свой час у БНФ і да нядаўняга часу (ня ведаю, як зараз) мелі добрыя адносіны з ім.

А.Сідарэвіч адзначае: "Практычна 90 працэнтаў электарату Пазьняка маглі б прагаласаваць за Шушкевіча." У сваю чаргу магу сказаць, што выбаршчыкі, якія аддалі свае галасы за кандыдатуру экс-сьпікера парлямэнта, у большасьці маглі б падтрымаць лідэра БНФ, нават некаторыя сябры Грамады гатовы былі зрабіць гэта, але спасылаліся на партыйную дысцыпліну. Ды й чаму Пазьняк павінен быў ці ўвогуле не вылучацца кандыдатам на пасаду Прэзідэнта Беларусі, ці зьняць яе на карысьць вылучэнца ад БСДГ і АДПБ, а не наадварот?

Што датычыць Менска, дзе сапраўды С.Шушкевіч апярэдзіў Пазьняка па выніках першага тура выбараў, то не магу не адзначыць той факт, што шмат маіх знаёмых, зьяўляючыся прыхільнікамі БНФ, выршылі падтрымаць былога сьпікера, бо аб намеры стаць прэм'ер-міністрам у выпадку яго перамогі заявіў старшыня Нацбанка Беларусі С.Багданкевіч й таму, што ў яго каманду ўваходзіць вядомы эканаміст У.Заблоцкі. Яны спадзяваліся, што гэта забясьпечыць Шушкевічу посьпех. Атрымліваецца, яны ставілі не на экс-сьпікера, а на яго каманду. Прычым, магчыма, так і не даведаліся, што іх ашукалі - У.Заблоцкі ніколі не ўваходзіў у каманду Шушкевіча.

Дапусьцім, што спадар Сідарэвіч выразіў толькі свой пункт гледжаньня, пісаў на эмоцыях, не прааналізаваўшы сытуацыю ці ў прапагандысцкіх мэтах. Але ж ці павінен так рабіць разважны палітык?

Такія публікацыі могуць толькі пагоршыць адносіны паміж прадстаўнікамі роднасных партый. Тыя людзі, што былі калі не сябрамі, дык саюзьнікамі, могуць стаць ледзьве ня ворагамі. Для Бацькаўшчыны гэта будзе азначаць сьмерць. А можа хтосьці лічыць, што З.Пазьняк - учарашні дзень і яго партыя сваю справу ўжо зрабіла? Гэта ня так. Таму ня трэба нікога ні ў чым абвінавачваць. Неабходна аб'яднацца на карысьць адраджэньня Беларусі й выступіць на чарговых парлямэнцкіх выбарах адзіным фронтам.

Д.АЛЕГАЎ.




## ЖЫЦЬЦЁВЫ Й СЛУЖБОВЫ ШЛЯХ АЛЯКСАНДРА РЫГОРАВІЧА ЛУКАШЭНКІ

Нарадзіўся ў 1954 годзе. З 1975 па чэрвень 1994 года зьмяніў дзесяць пасад. Мае вопыт камсамольскай працы (сакратар камітэту камсамола школы, сакратар камітэту камсамола гархарчгандлю г.Магілёва). Праходзіў службу на адказных пасадах у палітворганах памежных войскаў КДБ СССР (інструктар палітаддзела Заходняй памежнай акругі, намесьнік камандзіра роты па палітчастцы).

Станоўча праявіў сябе на партыйнай, савецкай ды ідэалагічнай працы (сакратар парткама калгаса, інструктар райвыканкама, адказны сакратар таварыства "Веды").

Унёс значны ўклад у падвышэньне ўзроўню сельскагаспадарчай вытворчасьці, працуючы на пасадах старшыні калгаса й дырэктара саўгаса.

**А.Р.ЛУКАШЭНКА - ДАСТОЙНЫ ВЫХАВАНЕЦ ПАРТЫІ Й КАМСАМОЛА!**

# УПЭЎНЕНАСЬЦЬ НА 150%. КАЛІ НАРОД... ПРЫЙДЗЕ

26 чэрвеня адбылося паседжаньне Гарадзенскай вабласной камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Сакратар камісіі паведаміла, што ў выбарах прэзідэнта РБ па Гарадзенскай вобласьці прынялі ўдзел 80,4% выбаршчыкаў. У некаторых раёнах былі зафіксаваны парушэньні Закону аб выбарах прэзідэнта ў РБ. Так, да прыкладу, у вёсцы Манчыцы Сьвіслацкага раёна член участковай камісіі нехта Л.Шыманіца прапанавала адной з выбаршчыц бюлетэнь, у якім усе кандыдаты, акрамя Кебіча, былі выкрэсьлены. Заяву аб парушэньні закона напісала У.Кранцэвіч, знайшліся сьведкі, якія гэта пацьвердзілі. Справа перададзена ў пракуратуру. (Цікава, хто зараз абароніць Л.Шыманіцу, якая, напэўна, загадзя была ўпэўнена ў перамозе Вячаслава Францавіча).

Прыводзіўся прыклад са студэнтамі ў Мастоўскім раёне, аб якіх паведамляла "Пагоня" у мінулым нумары. На шчасьце, пасьля доўгіх мытарстваў студэнты ўсё ж прагаласавалі. Аднак "Пагоня" не паведамляла, што адзін з студэнтаў заявіў, што абальле сябе бэнзінам і падпаліць, калі не дадуць прагаласаваць.

У выбарах па Гарадзенскай вобласьці ўзяло ўдзел 883800 чалавек, 99,3% - прагаласавалі, 475 чалавек бюлетэні не запоўнілі. Несапраўдных бюлетэняў аказалася 20732. Не паступіла ніводнага сігнала аб фальшыўках.

У выбарах прынялі ўдзел назіральнікі з Англіі, Польшчы, ЗША, Турцыі, быў нават прадстаўнік патрыярха Ўсяе Русі.

Колькасьць галасоў разьмясьцілася наступным чынам:

Дубко А. - 63722, Кебіч В. - 103555, Лукашэнка А. - 257743, Новікаў В. - 23227, Пазьняк З. - 150581, Шушкевіч С. - 73194.

З. Пазьняка найбольш падтрымалі ў Лідзе, Смаргоні, Смаргонскім, Іўеўскім (больш 40% выбаршчыкаў) і Астравецкім раёнах. Тут З.Пазьняк набраў найбольшую колькасьць галасоў. Практычна па ўсіх іншых раёнах у яго другі паказчык пасьля Лукашэнкі.

Журналістам было паведамлена аб заяве даверанай асобы кандыдата Лукашэнкі ў Горадні палкоўніка ў адстаўцы Посахава (ён, дарэчы, таксама прысутнічаў у зале). Як высьветлілася, напярэдадні выбараў 21 чэрвеня Посахаў сумесна з сваімі паплечнікамі падаў заяву ў Гарадзенскі гарвыканкам на дазвол аб правядзеньні ў горадзе шэсьця-пратэсту супраць замаху на жыцьцё А.Лукашэнкі. Гарвыканкам адмовіў, пасьля чаго Посахаў зьвярнуўся ў вабласную выбарчую камісію разгледзець і падтрымаць яго заяву. Аднак камісія аднагалосна вырашыла заяву не разглядаць, палічыўшы гэта нават не сваёй кампэтэнцыяй.

Падчас разгляду гэтай справы "затесавшийся" сярод журналістаў Посахаў пасьмейваўся, маўляў: "Да разве эти люди смогут жить при демократии?" А на пытаньне аднаго з журналістаў, ці лічыць палкоўнік, што выбары ўжо ў кішэні, палкоўнік не задумваючыся адказаў: "Калі народ прыйдзе на выбарчыя ўчасткі, то ўпэўненасьць на 150%."

(ір).

## ПАВЕРЫЛІ!?

Да дня выбараў Прэзідэнта Беларусі сродкі масавай інфармацыі краіны распаўсюдзілі паведамленьне аб тым, што граф Прушынскі паабяцаў выплаціць 35 даляраў кожнаму з выбаршчыкаў, хто выкрэсьліць у бюлетэні для галасаваньня прозьвішчы ўсіх кандыдатаў і напіша слова "ГРАФ". Дзеля гэтага трэба было іх забіраць з сабой. На некалькіх выбарчых участках у Горадні пасьля ўскрыцьця скрыняў для галасаваньня былі знойдзены такія бюлетэні. Няўжо хтосьці сапраўды паверыў і пажадаў узбагаціцца? Калі так, то чаму бюлетэні засталіся ў выбарчых скрынях?

Д.А.

 



# ДАДЗЕНЫЯ АБ ВЫНІКАХ ВЫБАРАЎ ПА ГАРАДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЬЦІ

**У ГАЛАСАВАНЬНІ ЎДЗЕЛЬНІЧАЛА 80.27% ВЫБАРШЧЫКАЎ**

| Раёны | Колькасьць выбаршчыкаў | Галасавалі | Дубко | Кебіч | Лукашэнка | Новікаў | Пазьняк | Шушкевич | % за Пазьняка | % за Лукашэнку | % за Кебіча |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Бераставіцкі | 15931 | 14320 | 1602 | 1740 | 7041 | 206 | 1904 | 976 | 13.29 | 49.16 | 12.15 |
| 2. Ваўкавыскі | 29363 | 25284 | 2085 | 3363 | 11187 | 626 | 4504 | 2292 | 17.81 | 44.24 | 13.30 |
| 3. Воранаўскі | 28439 | 24648 | 3978 | 5757 | 7014 | 347 | 5427 | 1649 | 22.01 | 28.45 | 23.35 |
| 4. Гарадзенскі | 50908 | 43317 | 8421 | 5469 | 17594 | 1134 | 5139 | 3011 | 11.86 | 40.61 | 12.62 |
| 5. Дзятлаўскі | 31371 | 28111 | 2593 | 4847 | 10865 | 1003 | 5302 | 2191 | 18.86 | 38.65 | 17.24 |
| 6. Зэльвенскі | 20958 | 19127 | 1393 | 2838 | 7736 | 322 | 4524 | 1172 | 23.65 | 40.44 | 14.83 |
| 7. Іўеўскі | 30393 | 25748 | 2102 | 2563 | 6867 | 573 | 10308 | 2037 | 40.03 | 26.67 | 9.95 |
| 8. Карэліцкі | 25701 | 23581 | 1865 | 2264 | 13006 | 450 | 2800 | 1751 | 11.87 | 55.15 | 9.60 |
| 9. Лідзкі | 37610 | 30477 | 2308 | 4117 | 9800 | 481 | 9088 | 3170 | 29.82 | 32.15 | 13.50 |
| 10. Мастоўскі | 32778 | 27236 | 3349 | 2840 | 11397 | 1293 | 3839 | 2870 | 14.09 | 41.84 | 10.42 |
| 11. Навагрaдзкі | 25150 | 22370 | 2410 | 1690 | 12958 | 475 | 2486 | 1146 | 11.11 | 57.92 | 7.55 |
| 12. Астравецкі | 22136 | 18288 | 3341 | 3888 | 2760 | 344 | 4996 | 1658 | 27.32 | 15.09 | 21.25 |
| 13. Ашмянскі | 27975 | 22577 | 6043 | 1818 | 6259 | 370 | 5237 | 1588 | 23.19 | 27.72 | 8.05 |
| 14. Сьвіслачскі | 21064 | 19177 | 1848 | 1478 | 11005 | 320 | 2312 | 1209 | 12.05 | 57.38 | 7.70 |
| 15. Слонімскі | 19160 | 17438 | 1675 | 3453 | 6727 | 420 | 3302 | 901 | 18.93 | 38.57 | 19.80 |
| 16. Смаргоньскі | 21035 | 17334 | 2704 | 2331 | 3567 | 325 | 5974 | 1592 | 34.46 | 20.57 | 13.44 |
| 17. Шчучынскі | 50794 | 37205 | 2954 | 5638 | 16241 | 708 | 6878 | 2734 | 18.48 | 43.65 | 15.15 |
| Гарады: ГОРАДНЯ у тым ліку | | | | | | | | | | | |
| Ленінскі р-н | 97566 | 68288 | 3201 | 10280 | 25903 | 2229 | 11903 | 10400 | 17.43 | 37.93 | 15.05 |
| Кастрычніцкі р-н | 112957 | 81629 | 3164 | 14072 | 32181 | 2269 | 13600 | 11424 | 16.66 | 39.42 | 17.23 |
| ВАЎКАВЫСК | 29326 | 23028 | 920 | 2258 | 7149 | 1397 | 6347 | 3789 | 27.56 | 31.04 | 9.80 |
| ЛІДА | 69702 | 52517 | 2290 | 8071 | 13118 | 1742 | 16723 | 8031 | 31.84 | 24.97 | 15.36 |
| НАВАГРАДАК | 21448 | 18161 | 1020 | 1766 | 8196 | 374 | 3942 | 1924 | 21.70 | 45.12 | 9.72 |
| СЛОНІМ | 37203 | 30730 | 1857 | 7561 | 8550 | 751 | 6800 | 3171 | 22.12 | 27.82 | 24.60 |
| СМАРГОНЬ | 24814 | 18801 | 849 | 3453 | 3038 | 416 | 7156 | 3008 | 38.06 | 16.15 | 18.36 |
| У выніку Шушкевіч набраў 10.2% галасоў выбаршчыкаў, Дубко - 8.5%, Новікаў - 3.1 %. | | | | | | | | | 20.6% | 35.9% | 14.7% |

# СОН РОЗУМУ ПАРАДЖАЕ ПАЧВАРАЎ

**Перамогу ў першым туры атрымаў кандыдат, які зусім ня мае праграмы дзеяньняў. Посьпеху дамогся чалавек, які нідзе й нічым сябе ня вызначыў. За паўкрока ад прэзідэнцкага крэсла мы бачым постаць, вакол якой няма аніякай прэзідэнцкай каманды, ці хаця б людзей, якія штосьці ўмеюць рабіць.**

Пра патаемную тэхналёгію ўзыходжаньня Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі да вяршыняў улады мы абавязкова яшчэ пачуем. Сёньня ж дастаткова канстатаваць, што траекторыя зоркі Аляксандра Рыгоравіча вельмі нагадвае кар'еру камандантэ нумумбы, патаемнага прыхільніка сацыялістычнага выбару ў якім-небудзь лацінаамэрыканскім свазылэндзе.

У гэтай сытуацыі, бязумоўна, галоўнай інтрыгай зьяўляецца пытаньне пра тое, чым не дагадзіў сваім маскоўскім апекунам Вячаслаў Францавіч, якому так і ня далі ні таннай нафты, ні больш-менш значных заказаў на прадукцыю беларускіх заводаў, што дазволіла б хоць трошкі "разкачагарыць" непрацуючыя прамысловыя гіганты.

Ёсьць толькі адзін неабвяржальны факт: выбарчыя бюлетэні, якія далі Лукашэнку 45 працэнтаў падтрымкі, запаўняліся рукамі тысячаў сумленных людзей, якія ўжо стаміліся жыць па-скоцку, якім у пячонку ўеліся рознага калібру злодзеі й прайдзісьветы, што правяць сёньня баль на Беларусі. Ці ж людзі ня бачылі, за каго галасуюць? Адказ просты - ня бачылі.

Дзесяцігоддзі жыцьця пад камуністычным ярмом далі людзям (гледзячы на выніку першага тура, хочацца верыць) стойкі антыкамуністычны імунітэт. Але пакінулі ў спадчыну поўную бездапаможнасьць перад мімікрыяй камуністаў, якія перафарбаваліся і зноў пайшлі ў наступ. То пад выглядам дэмакратаў, то бізнэсмэнаў, то яшчэ якой-небудзь халеры. "Чэсны" камуніст Аляксандар Лукашэнка апрануў сьвітку барацьбіта з карупцыяй. І народ, якога дзесяцігоддзямі адвучалі думаць і аналізаваць, паверыў. Менавіта паверыў.

Паверыў у тое, што Аляксандар Рыгоравіч нібы сапраўды жыве на 120 тысячаў дэпутацкай зарплаты, аплочваючы пры гэтым ну вельмі "сьціплы" нумар у зусім "простым" гатэлі "Кастрычніцкі". Паверыў у тое, што нейкія дрэнныя дзядзькі на "Фордзе" (ну вядома ж карупцыянеры!), быццам бы хацелі пакрыўдзіць бліскучага "барацьбіта з карупцыяй" Лукашэнку, прастрэліўшы заднюю дзьверку ягонага антымафіёзнага "Мэрсэдэса". Паверыў, як у прытчу аб сямі хлебах, якімі Ісус Хрыстос накарміў тысячу чалавек. Ня стаў аналізаваць, адкуль у Аляксандра Рыгоравіча ўзяліся "зусім незнаёмыя" сябрыбізнэсмэны, якім нічога не каштуе адваліць на плакаты з каляровым партрэтам Аляксандра Рыгоравіча сем з паловаю тысячаў дойчмарак.

Калі б прэм'ер Кебіч ня быў у свой час такім самаўпэўненым, ён бы ніколі ня праігнараваў заслугі спадароў Лукашэнкі й Булахава у справе "забойства" белавежскага "зубра" - Шушкевіча. Раздаў бы ім па партфелю і, глядзіш, - сёньня ня трэба было б хваляваца за свой лёс. Ну што дрэннага было б, калі б спадар Булахаў стаў, да прыкладу, старшынёй Цэнтральнай выбарчай камісіі? Ва ўсякім разе ён, ня ў прыклад Абрамовічу, вельмі хутка зрабіў бы "укарот" кандыдату ў прэзідэнты, які (ну трэба ж такому здарыцца!) ўмудрыўся недакладна ўказаць у афіцыйных дакумэнтах сваю пасаду й месца жыхарства. Ён хутка паставіў бы на месца свайго земляка, рэзонна заўважыўшы: калі трэба адкруціцца ад суда за паклёп, то Лукашэнка пражывае ў Магілёўскай вобласьці, а як рэгістравацца кандыдатам у прэзідэнты, то Лукашэнка ўжо жыхар Менску!

Любога іншага грамадзяніна даўно б зьнялі за такія выкрутасы з перадвыбарчай дастанцыі. А Аляксандру Рыгоравічу нават пальцам ня паківалі. Ці то за заслугі ў барацьбе з мафіяй, ці то яшчэ за штосьці... Вядома толькі адно: галасаваць за сябе Аляксандар Рыгоравіч мусіў на Магілёўшчыне. Па фальшываму адрасу можна зарэгістравацца кандыдатам у прэзідэнты. А вось прагаласаваць - нельга! Няма падстаў для ўнясеньня ў сьпісы выбаршчыкаў!

Падобныя прыклады дзейнасьці Лукашэнкі й тых, хто за ім стаіць, можна множыць бясконца. А высновa будзе адна - народ у чарговы раз падманулі. І варыянтаў разьвіцьця далейшых падзеяў таксама няшмат. Калі аўтарам гэтай хлусьні зьяўляецца Кебіч і яго каманда, дзеля таго, каб "выбіць" адзінага рэальнага кандыдата ў прэзідэнты - Зянона Пазьняка, то ў хуткім часе нам усім "пераканаўча" давядуць, чаму нам ня трэба другога туру выбараў. Пры гэтым, канешне, адбудзецца поўнае разьвянчаньне "народнага героя" Лукашэнкі за поўнай яго непатрэбнасьцю...

Пры аўтарстве гэтай афёры з боку Аляксандра Рыгоравіча й К°, мы станем сьведкамі вялікага спэктакля пад назвай "От перемены мест слагаемых сумма не меняется". Зьменяцца толькі асобныя твары на менскім Алімпе. Месца Кебіча зойме спадар Мясьніковіч — сёньняшні віцэ-прэм'ер — альбо цяперашні міністар эканомікі спадар Лінг... Вячаслаў Францавіч ціха адыдзе на ганаровую пэньсію, у той час як з вялікім трэскам будуць ляцець з утульных крэслаў "іваны іванавічы" і "пятры сьцяпанавічы", якія ў свой час ня вельмі ветліва ўсьміхаліся асабіста Аляксандру Рыгоравічу...

У нашай вёсцы пра такі выбар заўсёды казалі так: "абое рабое". І калі б ня было заканадаўчай забароны на байкот выбараў, то ў мяне была б толькі адна парада - ня ўдзельнічайце больш у спэктаклі, сцэнар якога напісаны бруднай рукою дзеля чужых інтарэсаў! Любая, самая мізэрная справа, якую вы зробіце ў сваёй хаце ў той дзень, калі ня пойдзеце выбіраць паміж "рэфарматарам" Кебічам і "барацьбітом" Лукашэнкам, будзе мець для вас і вашай сям'і большае значэньне й карысьць, чым выбраньне аднаго з гэтых "герояў"!

У сувязі з тым, што такія заклікі забароненыя, я мяркую, што таксама нічога дрэннага не адбудзецца, калі, выконваючы свой грамадзянскі абавязак, вы старанна выкрэсьліце абодвух.

Сон розуму параджае пачвараў. У слушнасьці гэтых словаў мы ўжо неаднойчы пераконваліся. Але калі розум ёсьць, ён павінен некалі абудзіцца!

**М.МАРКЕВІЧ,**
**народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.**

# НА НАСТУПНЫХ ВЫБАРАХ МЫ АБАВЯЗКОВА ВЫЙГРАЕМ!

За шэсьць год праўрадавыя сродкі масавай інфармацыі вылілі на асобу Пазьняка шмат бруду. Доўгі час яго інакш, акрамя як "экстрэмістам", "фашыстам", "нацыяналістам" не называлі, прыпісвалі тое, што яму неўласьціва. І гэта замацавалася ў падсьвядомасьці грамадзян Беларусі. Ці магчыма было за дваццаць дзён перадвыбарчай агітацыі й некалькі выступленьняў па радыё й тэлебачаньню пераканаць людзей, што гэта хлусьня? Канешне, не.

Паглядзеўшы па тэлебачаньню выступы лідэра БНФ, я ўбачыў, што яны надта лагічныя. Але ў той жа час складаныя для разуменьня простага чалавека. Ня трэба народу казаць пра "сістэмны аналіз", пра зьніжэньне падаткаў для адных і павышэньне для другіх, пра нацыянальную валюту - яго гэта мала цікавіць. А да нацыянальнай валюты ў большасьці грамадзян Беларусі ўвогуле адмоўнае стаўленьне, бо іх доўгі час пераконвалі, што пасьля яе ўвядзеньня матэрыяльнае становішча толькі пагоршыцца. Не абяцаў ён хутка палепшыць дабрабыт людзей, вярнуць народу нарабаванае, у той жа час казаў, што спыніцца ў выпадку яго перамогі дацыраваньне стратных прадпрыемстваў. Гэта адштурхнула ад яго патэнцыяльных прыхільнікаў. Зразумела, Пазьняк - сумленны чалавек, ня можа маніць, але ж народ не заўсёды любіць чуць праўду.

Чалавеку ўласьціва хутка забываць пра дабро й доўга памятаць пра зло. Народ Беларусі забыўся пра тое, што менавіта Беларускі Народны Фронт раскрыў праўду аб аварыі ў Чарнобылі й шмат зрабіў для ліквідацыі яе вынікаў, аб Курапатах, прыклаў шмат намаганьняў па вяртаньню вернікам культавых пабудоў, барацьбе з карупцыяй ва ўладных структурах, зрабіў шмат чаго іншага на карысьць насельніцтва рэспублікі. У памяці засталася толькі ілжывая прапаганда.

Перакананы: ад дэмакратаў павінен быў вылучацца адзін кандыдат. Відавочна, што ў гэтым выпадку ня ўсе выбаршчыкі, што галасавалі за экс-сьпікера, падтрымалі б лідара БНФ і наадварот, але ж большасьць з іх зрабіла б менавіта так, бо ў іх практычна аднолькавыя мэты й задачы. А так толькі расьцягнулі галасы выбаршчыкаў.

Ня ўсё магчымае зрабіла каманда Пазьняка, каб зрабіць яго імідж больш прывабным у вачах выбаршчыкаў. Адна мая знаёмая не пажадала падтрымаць яго толькі з-за таго, што ён падаўся ёй надта хмурным, суровым чалавекам ("не ўсьміхнецца нават").

Калі казаць пра групу падтрымкі Пазьняка, у прыватнасьці ў Горадні, то яе праца заслугоўвае незадавальняючай адзнакі. Пасьля збору подпісаў для вылучэньня яго кандыдатам на пасаду Прэзідэнта Беларусі асноўную ўвагу фронтаўцы надалі таму, каб забясьпечыць прысутнасьць назіральнікаў на ўсіх выбарчых участках. Гэта, канешне, патрэбна. Але ж чаму забыліся пра агітацыю й прапаганду? Напэўна, толькі ў цэнтры горада можна было ўбачыць плакаты й улёткі з праграмай З.Пазьняка. Я зрабіў заўвагу сябрам БНФ наконт гэтага й пачуў адказ, што навошта іх расклейваць, бо ўсё роўна зрываюць. Ці ўзяць той жа Менск, дзе ў шматлюдных месцах былі арганізаваны пікеты ў падтрымку Пазьняка. У Горадні толькі аднойчы зрабілі такі пікет таму, што прыязжаў А.Лукашэнка. І гэта ў горадзе, дзе суполка БНФ адна з самых шматколькасных у рэспубліцы.

Зараз трэба ўлічыць, прааналізаваць усе пралікі, зрабіць усё магчымае, каб надалей іх не было, бо толькі ад гэтага залежыць посьпех на будучых парлямэнцкіх выбарах.

**Д.ГАЛЕЗЬНІК.**

 



# ГРАМАДЗТВА

## ДЭМАКРАТЫЯ ЎСЬМІХНУЛАСЯ БЕЛАРУСІ І... АДЫЙШЛА

Рэальнасьць мацней за ўсс нашыя жаданьні й памкненьні. Калі адбудзецца другі тур выбараў, ні ў кога не выклікае сумненьняў перамога Лукашэнкі. І гэта рэальнасьць. Рэальнасьць і тое, што народ ня хоча больш слухаць падману Кебіча, абіраць камуніста Новікава. Алеі на больш ён сёньня ня здольны. Перамагае той, хто яшчэ больш нахабна можа падмануць гэты народ, беспадстаўна паабяцаць, мацней і галосьней заявіць аб сабе.

Нам, напэўна, патрэбна прайсьці й праз лукашэнкаўшчыну, каб усё ж сфармавацца й мець свой шлях і вопыт, бо дарога да дэмакратыі цяжкая й доўгая, а сама па сабе гэтая дэмакратыя ня можа падаць папросту з неба. Вопыт усіх народаў сьвету даказаў, што яе патрэбна выстрадаць, дамагчыся. На жаль, Беларусь яшчэ нават не бачыць гэтай дарогі. Яна яшчэ толькі-толькі пачынае праціраць свае вочы. Але ўжо сёньня зразумела, што прыйдзе той час, калі яна іх пратрэ.

**Ф.МАЛЕЦКАЯ.**

## С.БАГДАНКЕВІЧ: «КАЛІ МЫ ПАДТРЫМЛІВАЕМ ДРЭННАЕ НАЧАЛЬСТВА, ЗНАЧЫЦЦА Й МЫ ТАКІЯ САМЫЯ»

На мінулым тыдні Горадню наведаў старшыня Нацыянальнага банку Беларусі Станіслаў Багданкевіч. Гэта быў планавы візыт, падчас якога галоўны банкір краіны ўзяў удзел у вабласным сэмінары банкаўскіх служачых. У той самы дзень мясцовыя прадпрыймальнікі запрасілі С.Багданкевіча на сустрэчу з грамадзкасьцю, якая адбылася ў Доме тэхнікі.

Размова вялася аб сёньняшняй эканамічнай сытуацыі ў краіне й праблемах, якія неабходна вырашыць на будучае. С.Багданкевіч зазначыў, што галоўнай праблемай сёньня зьяўляецца інфляцыя і падзеньне курса нацыянальнага плацёжнага сродку ў адносінах як да таварнай масы, так і да іншых валют. Асноўнае, што павінна зрабіць зараз дзяржава, - гэта стварыць умовы нармальнага рыначнага разьвіцьця эканомікі.

З 1 студзеня 1991 года, калі ўрадам было аб'яўлена аб так званых рэформах у Беларусі, рубель абесцэніўся амаж у 2938 разоў у адносінах да таварнай масы. А сёньня Кебіч і яго каманда займаюцца балтаўнёй аб індэксацыі ўкладаў насельніцтва. Пры такой інфляцыі, з слоў Багданкевіча, зрабіць гэта практычна немагчыма. Больш таго, як зазначыў выступаючы, разьвіваць эканоміку ў такіх умовах таксама немагчыма, паколькі такая інфляцыя пазбаўляе магчымасьці накапліваць, зьберагаць, захоўваць. Яна разарае.

Галоўная прычына сёньняшняга становішча - дэзарганізацыя эканомікі. Дзіўным назваў С.Багданкевіч той падыход палітыкаў і эканамістаў, якія называюць галоўнай прычынай разрыў міжнародных сувязяў і развал Саюза. Праблема, на яго думку, у тым, што рэфармаваная эканоміка Расеі і Ўкраіны аказалася неплацёжаздольнай.

Асноўнае й галоўнае, на што зараз патрэбна зьвярнуць увагу беларускаму ураду, зазначыў С.Багданкевіч, - гэта скончыць з застоем у рэформах, найперш ажыцьцявіць нармальнае, здаровае цэнаўтварэньне. Немагчыма далей купляць нафту ў Расеі па адной цане, а прадаваць спажыўцам у 2,7 раза таньней.

Асабліва вялікія перакосы ў сельскай гаспадарцы, самаакупнасьць транспарту складае толькі 20 працэнтаў. Нароблена шматлікіх ільготаў, а хто за гэта павінен плаціць?.. Усяго на 10% пакрываюцца расходы камунальнай гаспадаркі за кошт насельніцтва. Сёньня за энэргарэсурсы Беларусь павінна Расеі 744 млрд. рублёў і больш за 10 млрд. не выплаціла Летуве. На думку Багданкевіча, нам патрэбна значна абмежаваць свае патрэбы, як, да прыкладу, гэта рабілі ў свой час у Францыі, калі арабскія краіны па палітычных прычынах не сталі прадаваць ёй нафты.

Наша краіна не ў стане больш весьці такую эканамічную палітыку. С.Багданкевіч зазначыў, што ніколі не падзяляў думкі, быццам у нас добры народ, а начальства - дрэннае. "Калі мы падтрымліваем такое начальства, значыцца й мы такія самыя."

С.Багданкевіч - за нацыянальную валюту, але для гэтага патрэбна падрыхтаваць неабходныя ўмовы: цьвёрдая ўлада, стабільная эканамічная палітыка, зьніжэньне інфляцыі да 10% у год. Прычым не трэба ўвесь час зважаць на тых эканамістаў, якія цьвердзяць, што ў Беларусі няма залатога запасу. Сотні дзяржаў маюць стабільную валюту без гэтага самага запасу. Валюта забясьпечваецца стабільным таварным запасам. На думку банкіра, ужо ў пачатку першага квартала наступнага года можна было б уводзіць сваю валюту ў Беларусі.

На жаль, ужо зараз наша краіна пераступіла мяжу бясьпечнай дзяржавы, паколькі нашы даўгі складаюць 54% ад нацыянальнага даходу.

Нягледзячы на ўсе цяжкасьці, Станіслаў Багданкевіч, адказваючы на пытаньні, сказаў, што нават у гэтым становішчы ён згодзен працаваць й нават на пасадзе старшыні Саўміна, калі яму, вядома, прапануюць. І гэта толькі з адной мэтай - каб нешта зьмяніць да лепшага. Паколькі далейшае існаваньне ўжо немагчыма, насьпелі зьмены.

С.Багданкевіч адказаў на шматлікія пытаньні прысутных.

**М.КАРНЕВІЧ.**

## СУР'ЁЗНЫ КАНКУРЭНТ

Прыемна былі зьдзіўлены гарадзенцы, калі месяц таму знайшлі ў паштовых скрынях газэту, на якую не падпісаліся, - першы нумар "Гродненской ярмарки". Цяпер яе штодзень бясплатна атрымліваюць у кожным доме Горадні. Яе выдавец - МП "Ярмарка". "Гродненская ярмарка" можа ў хуткім часе стаць сур'ёзным канкурэнтам "Рекламному приложению" да "Гродзенскай праўды". Кошты на размяшчэньне рэкламы ў новым выданьні ніжэйшыя, чым у астатніх.

**А.ДУК.**

## ШКАДА ПАЛЬЦАЎ - БЯЖЫ Ў БАНК

Пры мікрахірургічным цэнтры Горадні ствараецца банк трансплантантаў. У банку ўсталяваны кампутарны цэнтр, які будзе мець сувязь са ўсімі Цэнтральнымі раённымі шпіталямі вобласьці.

Ініцыятар арганізацыі ў вобласьці банка донарскіх тканін мікрахірургіі, галоўны афтальмолаг М.В.Логаш распавёў пра новае пачынаньне ў гарадзенскай мэдыцыне: "У вобласьці назіраецца значнае павышэньне траўматызму: тут і агнястрэльныя раненьні, рэзаныя, колатыя раны, для лячэньня якіх трэба шмат донарскага матэрыялу. Таму ў Горадні й ствараецца такі вось спэцыфічны банк."

**Г.Н.**



Гарадзенскае таварыства з абмежаванай адказнасьцю "Флора" займаецца абліцоўкай памяшканьняў і іх аздабленьнем, акрамя гэтага мае й крамы, якія гандлююць рознымі таварамі, узятымі на камісію ў грамадзян.

Ёсьць крама фірмы і ў горадзе Скідзелі. Яна разьмешчана ў будынку ўнівермага. Сярод тавараў тут і запчасткі да аўтамашын, веласіпедаў, мапедаў, якія карыстаюцца вялікім попытам пакупнікоў. Прадаўцом у краме працуе на працягу яе існаваньня Жанна Жук, якая да выкананьня сваіх абавязкаў адносіцца добрасумленна, у адносінах да пакупнікоў заўжды ветліва.

**Фатаграфаваў І.БАРЫСАЎ.**

## АКУЛЯРАЎ МОЖНА ПАЗЬБЕГНУЦЬ

**Блізарукасьць - найбольш часты дэфэкт зроку. Пра прычыны захворваньня, мэтодыку лекаваньня карэспандэнту "Пагоні" распавядае загадчык афтальмалагічнага аддзяленьня гарадзенскага ТМА-2 Іван Раманавіч Цярэшка.**

- На жаль, гэтае захворваньне на Гарадзеншчыне пашыраецца, асабліва пакутуюць дзеці. Калі яго не лекаваць, то вынік - інваліднасьць. Нездарма ў Горадні працуе школа дзя дзяцей з слабым зрокам, спэцыялізаваныя садкі. Многія гады спэцыялістамі ставіцца пытаньне перад уладамі стварыць у вабласным цэнтры дзіцячы афтальмалагічны цэнтр.

**- Што найбольш спрыяе разьвіцьцю блізарукасьці ў дзяцей?**

- Фактараў мноства - гэта стан навакольнага асяроддзя, алкагалізм, шкодная для здароўя праца ў бацькоў. На першы план на Гарадзеншчыне выступае экалёгія. Буйныя хімічныя прадпрыемствы "Азот", "Хімвалакно" у Горадні, "Лакафарба" у Лідзе, аб'яднаньне "Ваўкавыскцэмэнташыфер" - менавіта тыя прадпрыемствы, на якіх у працуючых цяжарных кабет найчасьцей пры дыягностыцы выяўляюць анамаліі ў плода. Нядаўна ў Горадні трэнерамі па боксу адбіраліся па школах дзеці, годныя для заняткаў боксам. Ледзьве з дзесяці школаў назьбіралі патрэбную групу. Акулістамі практычна ва ўсіх, хто не прайшоў адбору, выяўлены парушэньні ў разьвіцьці ворганаў зроку. З сумам магу канстатаваць, што многія бацькі наўмысна не жадаюць ісьці да лекара, каб выявіць захворваньне.

**- Чаму яны так робяць?**

- Цяжка адказаць. Можа, абыякавасьць, а гэта тычыцца так званых нездаровых сямей, дзе нехта з бацькоў п'е. Можа, ад гонару бацькі не жадаюць, каб іх пацеху ў садку, школе абзывалі акулярнікам. Такі ўжо ад прыроды чалавек, што аддае перавагу жаданьню застаўляць у таямніцы сваё гора. Гэта часьцей адбываецца з вясковымі жыхарамі.

**(Заканчэнне на 8-й стар.)**

## У СПАДАРА БЕКЕРА НЯМА ПАТРОНАЎ, А ДВОРНІКІ ЛОВЯЦЬ КОШАК У ГАСПАДАРЧЫЯ СЕТКІ

**Дзеці даходзілі да істэрыкі, дарослыя - адварочваліся, а сабака, напалову раздушаны колам аўтамабіля на перакрыжаваньні вуліц Горкага й бульвару Ленінскага камсамола ў Горадні, нема скуголіў. Дапамагчы брату меншаму так і не пасьпелі. Кіроўца легкавіка з летувіскімі нумарамі ўмела наехаў колам на галаву беднай жывёлы, й тая заціхла. Наступныя сродкі транспарту - тралейбусы, аўтобусы, легкавікі - як бы наўмысна мясілі крываве тоўчышча на асфальце. Кроў расьцякалася мутнымі патокамі. Ад удалага наезду з пад колаў пырскалі кавалачкі мяса, зьмешаныя з поўсьцю. Адным словам, у гэты момант на маставой баляваў гвалт, абыякавасьць.**

**Колькі іх, бяздомных, кінутых гаспадарамі, а то й проста заблудзіўшыхся сабак, кошак бегае на нашых вуліцах? У пошуках ежы, шляху да дому гінуць яны пад коламі аўтамашын. Некалі мы, будучы дзецьмі, лавілі іх і адводзілі да заапарку, а хто жадаў зарабіць грошы, вёў ці нёс здабычу да віварыя. Зараз заапарк не прымае нават радавітых кошак, сабак, ня кажучы ўжо пра бязродных. Яму б пракарміць хоць тых, што знаходзяцца ў клетках. Да віварыя, дзе з жывёліны навукоўцы маглі б мець хоць якую карысьць, несьці невыгодна.**

**Пра мерапрыемствы, якія праводзяцца ў гэтым накірунку аддзелам камунальнай гігіены Гарадзенскай санэпідэмстанцыі, карэспандэнт "Пагоні" гутарыць з намесьніцай загадчыка аддзелу спадарыняй Г.М.Іадкоўскай.**

- Ведаю, што бяздомных сабак, кошак шмат. Але сярод іх пераважная большасьць - хворыя. Наўмысна кажу гэта, каб тыя, хто жадае ўзяць сабе пацеху з вуліцы, ведалі, што яе абавязкова трэба весьці да ветэрынара.

У нас жа, ў аддзеле камунальнай гігіены, распрацаваны цэлы шэраг мерапрыемстваў для адлову блукаючых без гаспадароў сабак і кошак. Найперш трэба згадаць пра пагадненьні з ЖЭСамі горада, з якіх выцякае, што ЖЭСы павінны стала рабіць захады па ліквідацыі магчымых месцаў памнажэньня бяздомных жывёл. Маецца на ўвазе задзелка драцяной сеткай вокан і ўсемагчымых вэнтэляцыйных праёмаў, падвалаў, хлявоў і іншых камунальных камунікацый. Да таго дворнікам, што працуюць у ЖЭСах, ёсьць даручэньне весьці адлоў кошак. На жаль, дворнікі выяўляюць да гэтай справы мала ўвагі.

**- Чаму?**

- Па-першае, за адлоў кошак плацяць сымбалічную плату. Па-другое, бяздомных, зьдзічэлых кошак няма чым лавіць. Тыя ручныя, самаробныя прыстасаваньні не вытрымліваюць аніякай крытыкі. Іх вырабляюць са звычайных гаспадарчых сетак. Што тычыцца бяздомных сабак, то з імі павінна весьці барацьбу дарожна-эксплуатацыйнае прадпрыемства, якім кіруе спадар Бекер. І тут няма парадку, бо тым, хто павінен весьці адстрэл сабак у начны час сутак, не хапае патронаў. Іншых формаў зьніжэньня колькасьці бяздомных сабак на прадпрыемстве прызнаваць не жадаюць. А пакуль адны ловяць кошак першабытнымі прыладамі, а другія не выяўляюць вынаходніцтва, бяздомныя кошкі, сабакі будуць гінуць на нашых вуліцах, выключаючы ў адных агіду, а ў другіх - спачуваньне.

**Г.АСТРОЎСКІ.**

## ЖАЎНЕРСКІЯ ЎДОВЫ

У Ганны Самуілаўны Кузьміцкай, жыхаркі вёскі Карашава, й Марыі Самуілаўны Грэчышка з вёскі Залясяны Гарадзенскага раёна мужы загінулі на фроньце. Нялёгка было кабетам выхаваць дзяцей, весьці ўласную справу, працаваць на калгасным полі. Але выстаялі, вытрывалі жанчыны. Узьнялі зьнішчаную вайною народную гаспадарку, вывелі Савецкую дзяржаву ў лік самых магутных на сьвеце.

Час няўмольны, й Г.С.Кузьміцкая й М.С.Грэчышка на рэньце. Здавалася б, час паклапаціцца дзяржаве і аб іх.

На жаль, так і дагэтуль жывуць кабеты ў сваіх драўляных хатках.

**І.БАРЫСАЎ.**

# СУМЕЖЖА

## ПА ЧЫГУНЦЫ ПРАЗ ЛЕТУВУ

Летува ў геаграфічных адносінах зьяўляецца надзвычай зручнай для транспартных перавозак грузаў і пасажыраў. Праз яе праходзяць найбольш кароткія шляхі, якія злучаюць дзяржавы паўночных мораў і Балтыцкага мора з краінамі СНД, Паўднёвую й Цэнтральную Эўропу з Фінляндыяй, паўднёва-заходнімі ваблясцямі Расеі, з Нарвэгіяй. Акрамя таго, праз Летуву праходзіць найбольш кароткі шлях з Расеі ў Калінінградзкую вобласьць.

Урад краіны зацьвердзіў Нацыянальную праграму разьвіцьця транспартнай сістэмы краіны, асобнай мэтай якой зьяўляецца ўключэньне транспартнай сістэмы Летувы ў заходнеэўрапейскі рынак транспартных паслугаў.

Галоўным сродкам перавозкі пасажыраў і грузаў на вялікія адлегласьці застаецца чыгуначны транспарт. Агульная эксплуатацыйная працягласьць чыгункі Летувы складае 2054 кіламэтра, шчыльнасьць ліній - 31,6 кіламэтраў на тысячу кіламэтраў тэрыторыі (у краінах заходняй Эўропы - 60-100 км). Летува мае добрыя зносіны з чыгункамі дзяржаваў Балтыі, краін СНД, пасажырскімі чыгуначнымі маршрутамі зьвязаная з Расеяй, Беларусьсю, Латвіяй, Польшчай. З гэтымі краінамі ўжо заключаны дагаворы аб чыгуначных зносінах. Летува стала сябрам Асацыяцыі супрацоўніцтва чыгунак былых сацыялістычных краінаў, у якую раней уступілі Латвія, Эстонія, Беларусь, Малдова, Грузія, Украіна, Узбекістан. Гэты выгодна Летуве, бо яе імпартныя й экспартныя тавары ва ўсіх напрамках перавозяцца па чыгунках членаў гэтай арганізацыі. У транзіце праз Летуву зацікаўлена шмат дзяржаваў, аднак шырыня чыгуначнага палатна складае 1520 міліметраў, што не адпавядае эўрапейскім стандартам - 1435 мм. Гэта вельмі ўскладняе зносіны з дзяржавамі Заходняй Эўропы.

У мэтах выпраўленьня становішча ў сярэдзіне 1992 года былі адкрытыя прамыя зносіны з Польшчай на ўчастку ля Шаштокая, дзе каляіна адпавядае стандартам. Летась гэты ўчастак быў падрыхтаваны да руху грузавых цягнікоў, зараз там вядзецца падрыхтоўка да будаўніцтва тэрмінала па перагрузцы. Рух грузавых цягнікоў пачнецца ўжо сёлета.

Асноўныя праблемы чыгуначнікаў Летувы пры ўключэньні ў эўрапэйскую сістэму зьвязаны з вялікай зношанасьцю яе чыгунак. У неадкладным капрамонце маюць патрэбу 340 км участкаў з інтэнсіўным рухам. Тое ж датычыцца й парка лакаматываў, цеплавозаў, грузавых і пасажырскіх вагонаў. Так, вагонаў, якія б маглі абслугоўваць міжнародныя зносіны з краінамі Заходняй Эўропы, у Летувы няма ўвогуле. Не хапае й тэхнікі, таму частка чыгуначных участкаў абслугоўваецца цеплавозамі й вагонамі суседніх краінаў.

У пошуках выйсьця са становішча, якое склалася, падрыхтаваны кантракт з нямецкім канцэрнам DWA. У яго будуць набывацца пасажырскія вагоны. Сёлета запланавана абнавіць 34 вагона. Вэнгрыя таксама дала Летуве згоду на рэстаўрацыю выраблених у гэтай краіне дызельных цягнікоў.

Дагаворы аб супрацоўніцтве падпісаны з чыгуначнікамі Гэрманіі, Вэнгрыі, Польшчы й Кітая. Спэцыялісты з Летувы праходзяць стажыроўку ў Швэцыі, Вэнгрыі, Фінляндыі й Польшчы.

Сярод работ, якія плануецца выканаць на чыгунцы Летувы, - рэканструкцыя Віленскай чыгуначнай станцыі, мадэрнізацыя сартыровачных станцый. Мяркуецца перабудова лініі Сувалкі-Шаштокай, бо па гэтаму ўчастку плануецца перавезьці каля 2,5 мільёна тон грузаў Летувы, а з улікам патрэбаў іншых краін Балтыі перавозкі ў пэрспэктыве складуць ня менш пяці мільёнаў. Пасажырапаток у гэтым напрамку прагназуецца з інтэнсіўнасьцю каля 1 мільёна пасажыраў штогод.

На паседжаньні групы хуткасных чыгунак Міжнароднай арганізацыі па супрацоўніцтву чыгунак, што адбылася летась у Берасьці, удзел у якой бралі 11 краінаў, было паведамлена, што, згодна першапачатковым планам арганізацыі ў адносінах да Ўсходняй Эўропы, хуткасныя дарогі плануецца стварыць на ўсходніх ускрайках Летувы. Пакінуты ў баку іншыя краіны Балтыі (цягнікі на іх будуць перамяшчацца з хуткасьцю 200-300 км у гадзіну). Але балтыцкія спэцыялісты здолелі пераканаць удзельнікаў паседжаньня ў неабходнасьці дадатковай лініі хуткаснай чыгункі з Вільні ў Талін праз Рыгу.

Хуткасныя зносіны з Заходняй Эўропай магла б забясьпечыць чыгуначная лінія Варшава-Талін праз Беласток, Коўна, Шаўляй і Рыгу. У стадыі фармаваньня знаходзіцца яшчэ адна хуткасная лінія - Масква-Менск-Клайпэда праз Вільню й Коўна.

Хуткасныя чыгункі будуць мець стандартную эўрапэйскую каляіну - 1435 мм шырынёй. Агульная працягласьць іх складзе 835 км, у тым ліку лінія Варшава-Талін - 260 км, Масква-Клайпэда - 325.

**МГ**

## ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

Цывілізаваным выйсцем з крызісу ўлады маглі б быць датэрміновыя выбары ў Сойм, якія можна было б правесьці вясной наступнага года. Такую думку выказаў лідэр апазыцыі Вітаўтас Ландзбэргіс. Згодна з канстытуцыяй паўнамоцтва цяперашняга Сойму заканчваецца восеньню 1996 года. Як падкрэсьліваe В.Ландзбэргіс, урад ня можа справіцца з паўсталымі заданьнямі, ня мае дэмакратычнай праграмы адраджэньня гаспадаркі й патрэбных для гэтага кадраў.

* * *

Старшыня Сойму Чэславас Юршэнас ня бачыць крызісу ўлады, як сьцьвярджаюць некаторыя лідары апазіцыйных палітычных сілаў. Прэзідэнт, Сойм і ўрад працуюць і выконваюць свае канстытуцыйныя абавязкі. ЛДПП, якая выйграла выбары ў 1992 годзе, прыняла на сябе абавязкі на 4-5 гадоў, і няма трэба патрабаваць, каб выканаць усё гэта на працягу паўгода. Пра тое, як рэалізуюцца абавязацельствы ў стасунку да выбаршчыкаў, будзем размаўляць у 1996 годзе,- так гаворыць Ч.Юршэнас.

* * *

Урад распрацаваў і зацьвердзіў праграму падрыхтоўкі выкладчыкаў для школаў нацыянальных меншасьцяў да 2000 года. У гэтым і наступным годзе Міністэрства культуры й адукацыі павінна падпісаць дамовы з адпаведнымі службамі Расеі, Польшчы, Беларусі ды іншых дзяржаваў наконт гэтага. Урад спадзяецца, што згодна з праграмай у вышэйшых установах Летувы будуць вучыцца ня толькі будучыя філёлагі, але й выкладчыкі іншых прадметаў для школаў з расейскай, польскай і беларускай мовай навучаньня.

* * *

Сумесная летувіска-брытанская камісія дасьледваньня грамадзкай думкі "Балтыцкія дасьледваньні" задала 1178 жыхарам са 102 мясьцін Летувы пытаньне: "давяраеш ці не давяраеш наступным інстытуцыям?"

77 працэнтаў рэспандэнтаў давярае касьцёлу. Далей ідуць: сродкі масавай інфармацыі (68%), установа прэзідэнта (38%). У справядлівасьць паліцыі верыць 30 працэнтаў апытаных, а суду давярае толькі 23%.

* * *

Калі ў 1989 годзе ў Вільні было высаджана 83 тыс. дэкаратыўных дрэваў і кустоў, каля 2 млн. кветак, разьбіта 39,5 гэктараў траўнікаў, дык летась толькі 6 тыс. дрэваў і кустоў, 0,3 млн. кветак, а траўнікі не разьбіваліся ўвогуле. Не да канца азеленёныя некаторыя адносна новыя мікрараёны. За апошнія чатыры гады не разьбіта ні воднага новага парка або сквэру.

У Вільні гарадзкія паркі, пляцы, сквэры й зялёныя пасадкі на магістральных вуліцах займаюць плошчу 265 гэктараў, 6414 гэктараў лясных паркаў, 20 фантанаў, 200 гэктараў могілкаў. Для дагляду за імі трэба 3,4 млн. літаў у год. Тым часам з бюджэту на гэтыя мэты выдзелены толькі 1 мільён.

* * *

Былыя вайскоўцы Савецкай Арміі сабраліся ля расейскага пасольства. Справа ў тым, што яны атрымоўваюць пэнсіі з фонда Міністэрства абароны Расеі. Аднак у гэтым годзе ў Расеі пачаў дзейнічаць закон аб пэнсійным забясьпячэньні былых вайскоўцаў, які, як гэта ня дзіўна, не распаўсюджваецца на пэнсіянэраў - жыхароў Летувы, якіх налічваецца каля 9 тысячаў. У выніку, іх пэнсіі ўтрая меншыя, чым у Расеі.

Сабраўшыяся не рабілі пікета, паколькі напярэдадні была атрымана тэлеграма ад міністра П.Грачова. У ёй сьцьвярджаецца, што кожны будзе атрымліваць кампэнсацыю ў памеры 75 літаў, якая будзе выплачвацца штомесяц.

Рада вэтэранаў адклала на два месяцы арганізацыю пікету, аднак патрабаваньні аб пэнсійным забясьпячэньні па закону Расейскай Фэдэрацыі не зьняла.

* * *

Клюбы "Ліёнс", якіх на сьвеце налічваецца звыш 40, аб'ядноўваюць багатых людзей, што займаюцца дабрачыннай дзейнасьцю. Яны ёсьць і ў Шаўлях. Да мясцовага клюбу належыць 21 чалавек. Нядаўна ён быў прыняты ў міжнародную арганізацыю. Цікава, што да клюбу "Ліёнс" у Шаўлях належыць міністар унутраных спраў Летувы Р.Вайцякунас.

**У.СТРУМІЛА.**

## ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

У Беластоку ў самаўрадавых выбарах выйграў правы блок "Адзінства", які будзе мець 26 дэпутатаў у гарадзкой радзе з 50-ці радных. Блок левых атрымаў 10 дэпутацкіх мандатаў, "Унія Вольнасьці" - 8, Выбарчы камітэт праваслаўных - 3 і незалежны камітэт "Наш горад" - таксама 3 мандаты.

* * *

У Бельску-Падляскім на 28 дэпутацкіх мандатаў 18 заваявала Бельская кааліцыя, ў складзе якой знаходзіцца Беларускі выбарчы камітэт.

У Гайнаўцы на 28 месц у радзе 18 мандатаў атрымалі кандыдаты, вылучаныя Беларускім выбарчым камітэтам, а таксама прафсаюзамі завода "Фурнэль". Астатнія радныя балатаваліся як незалежныя.

* * *

Польская сэкцыя радыё "Вольная Эўропа" апошнюю перадачу з Мюнхена выпусьціла ў эфір 30 чэрвеня. У Познані адбылося ўрачыстае разьвітаньне журналістаў гэтай радыёстанцыі са слухачамі.

Цяпер перадачы "Вольнай Эўропы" перадаюцца з Варшавы, але й надалей за амэрыканскія грошы.

* * *

На паседжаньні сэнату сэнатар Т.Раманчук з Саюза левых дэмакратаў зачытаў заяву, у якой патрабаваў прысвоіць праваслаўнаму палявому ардынарыю архіепіскапу Саву воінскае званьне генэрала брыгады. "Адтэрміноўка гэтай справы пасьля нядаўняга аднаўленьня дзейнасьці праваслаўнага ардынар'ята ў Войску польскім прычыняецца да таго, што праваслаўныя адчулі сябе прыніжанымі", - сказаў сэнатар, а ў склаўшайся сытуацыі абвінаваціў прэзідэнта РП і сілы, якія ўплываюць на яго рашэньні.

Сэнатар паясьніў, што ён меў на думцы "чорныя сутаны". Пры нагодзе зазначыў, што каталіцкі палявы ардынарый Лешак Славой Глудзь мае чын генэрала дывізіі.

* * *

Падпальшчык царквы на сьвятой гары Гарбарцы Ян Сабескі не вярнуўся з пропуску ў турму, а паявіўся на радзіме ў гміне Мельнік. У той час паліцыя атрымала паведамленьне аб узломах у крамы й кватэры ў ваколіцах Нурца, Мельніка, Семяціч. Жыхары аднае з вёсак заўважылі вязьня ў апусьцелых будынках і наспрабавалі яго злавіць, але той пасьпеў уцячы праз дах. Пасьля 18 дзён блуканьня на волі яго затрымала паліцыя ў Седальцы.

* * *

Краёвая рада Тэлебачаньня й Радыёвяшчаньня паведаміла аб намеры стварыць чарговы рэгіянальны тэлецэнтар. Дванаццаты такога тыпу тэлецэнтар у краіне паўстане ў Беластоку й сваёй дзейнасьцю ахопіць паўночнаўсходнюю частку Польшчы. Узьнікненьне тэлецэнтра ў Беластоку створыць магчымасьць шырэйшага доступу да публічнага тэлебачаньня нацыянальным меншасьцям і дапаможа палякам, якія жывуць за ўсходнімі межамі краіны.

**Па матэрыялах польскага друку.**



Мячэць у Менску, пабудаваная ў пачатку гэтага стагоддзя замест драўлянай, заснаванай у 1506 годзе, як яна выглядала да разбурэньня ў 60-х гадох. Зараз вядзецца праца па адбудаваньню храма па праэкту, у якім ён павінен быць у два разы болей за арыгінал.

**Пераздымак В.ГАРОШКА.**

# ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

Васіль РАГУЛЯ

# УСПАМІНЫ

## АД ВЫДАЎЦЫ

16-га чэрвеня 1955 года пасьля доўгай і цяжкай хваробы памёр у Нью-Ёрку Васіль Рагуля - былы беларускі пасол і сэнатар польскага парляманту ў 1920-1930 гадох.

Ужо на эміграцыі, у часе прабываньня ў Бэльгіі, ён напісаў успаміны, якія гэтым аддаю ў рукі беларускага грамадзтва.

Палажэньню беларускага насельніцтва Заходняй Беларусі ў межах польскае дзяржавы ў пэрыяд 1920-1939 гадоў, ягонаму змаганьню за эканамічныя, культурныя і нацыянальна-дзяржаўныя правы ў нашым друку няшмат дагэтуль было прысьвечана ўвагі, калі не лічыць некалькі газэтных, не заўсёды аб'ектыўных артыкулаў.

Адсутнасьць праўдзівага насьвятленьня фактычнага стану рэчаў у беларуска-польскіх суадносінах за гэты пэрыяд дае магчымасьць яшчэ і сёньня некаторым польскім эміграцыйным колам прэтэндаваць на Заходнюю Беларусь, прадстаўляючы яе перад заходнім сьветам, як польскую тэрыторыю, а беларускае насельніцтва яе, як лаяльных грамадзянаў польскае дзяржавы ў пэрыяд між дзьвума апошнімі войнамі.

З другога боку, цяпер, калі ўвесь беларускі народ з Заходняю Беларусьсю ўключна пакутуе пад гнётам бальшавіцкага каланіялізму, які сёньня, як і ў 1925 г., прыкрываючыся маскаю апякуна нацыянальна-вызвольных рухаў каланіяльных, паўкаланіяльных і эканамічна адсталых народаў, далей прасоўвае свае мацкі ва ўсіх напрамках, - асабліва значэньня набірае трагічны канец "Грамады" і яе лідараў.

Насьвятляючы ўсе гэтыя падзеі й людзей з пэрыяду акупацыі Заходняй Беларусі Польшчаю, даючы шмат фактычнага матэрыялу, успаміны дапамогуць нашаму народу й ягоным дзеячам правілдова ацаніць мінуўшчыну, каб зрабіць з яе патрэбныя высновы на будучыню.

У дадатку да ўспамінаў зьмешчаны некалькі выбраных прамоваў пасла В.Рагулі з соймавае трыбуны, а таксама сьпіс усіх ягоных прамоваў у Сойме за пэрыяд першага скліканьня польскага парляманту (1922-1927 гг.). Матэрыял гэты я ўзяў з урадавых пратаколаў соймавых паседжаньняў, якія перахоўваюцца ў Публічнай Бібліятэцы ў Нью-Ёрку.

Згоднасьць гэтых прамоваў з успамінамі, напісанымі 30 год пасьля, пацьвярджае праўдзівасьць успамінаў у насьвятленьні іх аўтарам падзеяў, людзей і самага сябе.

Няхай гэтая кніжка будзе ўшанаваньнем памяці аднаго з лідараў беларускага нацыянальнага руху ў Польшчы, лідара з волі народу, бо два разы выбранага гэтым народам: першы раз - на становішча пасла, другі раз - на становішча сэнатара.

М.РАГУЛЯ.
Лістапад, 1957 г. Нью-Ёрк.

## ПРАДМОВА

16-га лістапада сёлета мінае 31 год з дня, калі група беларускіх паслоў і сэнатараў пераступіла парог польскага Сойму, як паўнапраўныя сябры польскага парляманту і прадстаўнікі беларускага народу ў ўставадаўчых палатах Польскай Рэспублікі. Шмат вады ўцякло з таго часу, многа ўдзельнікаў актыўнай палітычнай працы зышло ў магілу: адны насільна, другія натуральна. Сярод жывых засталося іх вельмі мала.

Шмат хто з беларусаў другога пакаленьня, асабліва з савецкай часткі Беларусі, мала азнаёмлены з гэтым пэрыядам жыцьця беларусаў пад Польшчай. Уступаючы іх настойлівым просьбам, пасьля доўгіх вы-гіганьняў, я наважыў прысьвяціць вольны цяпер у мяне час на тое, каб аб'ектыўна й дабрасумленна асьвятліць перад сучасным пакаленьнем працу Беларускага Польскага Клюбу й тагачасных палітычных дзеячоў, а таксама й настроі нашага народу. Я добра разумею, што знойдуцца пакрыўджаныя й незадаволеныя. Што-ж зрабіць? Ім магу сказаць: што пасеялі, тое й пажнеце. Я катэгарычна заяўляю, што буду імкнуцца ўнікаць прадузятасьці, буду далёкі ад варожасьці, сімпатыі ці антыпатыі, як да палітычных плыняў сярод беларусаў, так і да паадзіночных асобаў тае пары, не выключаючы й самага сябе.

Я буду шчасьлівы, калі напісанае мною ўсьцеражэ нашых сучасных і будучых палітычных і грамадзкіх дзеячоў ад паўтарэньня памылак іх бацькоў.

19.06.1953 г. Лювэн, Бэльгія.

## МАЯ БІЯГРАФІЯ

Нарадзіўсмя я 16-ліпеня 1879 года ў вёсцы Ачукевічы, Любчанскай воласьці, Наваградзкага павету. Па сканчэньні пачатковай школы, я ўступіў у Маладэчанскую Настаўніцкую сэмінарыю, якую скончыў у 1898 годзе. Да 1903 года быў настаўнікам пачатковай школы ў вёсцы Налібокі. У 1903 годзе ўступіў у Віленскі Настаўніцкі Інстытут, які й скончыў у 1906 годзе. У гэтым самым годзе я быў арыштаваны за распаўсюджваньне "Выборгскага воззвания". Дзеля бяздоказнасьці мае віны справа была зьліквідавана, і я атрымаў пасаду настаўніка Вышэйшае пачатковае школы ў Смаргонях, а ў 1908 г. быў пераведзены на такую самую пасаду ў 3-юю Менскую Вышэйшую пачатковую школу. Будучы настаўнікам, я гарнуўся да грамадзкае працы. Падчас летніх вакацыяў я зарганізаваў у родным мястэчку бязплатную падрыхтоўку хлапцоў для паступленьня ў гарадзкія вучылішчы і ў настаўніцкую сэмінарыю. Апрача гэтага, з удзелам настаўнікаў і настаўніц я арганізоўваў аматарскія пастаноўкі спэктакляў. За два гады мы паставілі "Рэвізор" Гогаля й "Дзядзю Ваню" Чэхава. У пастаноўцы спэктакляў даваў нам вялікую дапамогу земскі начальнік, казачы штабс-ротмістар Ілавайскі, шчыры дэмакрат. На спэктаклях ягоная жонка арганізоўвала на свой кошт багаты буфэт. Як на тыя часы білеты каштавалі дорага: ад 5 рублёў - крэсла першага раду, да 50 капеек за стаячыя месцы ззаду. Буфэт, карты й білеты давалі разам да 1000 рублёў за спэктакль. Даход з двух спэктакляў быў каля 2000 рублёў. Па прапанове таго ж Ілавайскага, на гэтыя грошы мы вучылі ў Менскай гімназіі двух сялянскіх хлапцоў: Логіна й Каравайчыка. З дапамогай менскай настаўніцкай арганізацыі мне ўдалося працягнуць гэтых хлапцоў праз гімназію.

У 1914 годзе я быў змабілізаваны ў армію, дзе, як вайсковы ўрадавец, праслужыў да чэрвеня 1918 года, калі быў звольнены бальшавікамі. Увосень 1918 года я пераехаў у Менск і працаваў у якасьці настаўніка чыгуначнай 4-х клясавай школы. Вясною 1920 г., пасьля акупацыі Менску палякамі, нашую школу польскі інспэктар зачыніў, а настаўнікі былі пушчаны на "зялёную траву". Каб перачакаць вайсковую завіруху, я наважыў пераехаць на гаспадарку ў родную вёску. Маючы карову, каня, плуг і барану (калёс ня меў), я шчыра ўзяўся за гаспадарку. Цяжка было гаспадарыць без грошай. Зноў прыйшлі бальшавікі, і мяне, як прыналежнага да "комсостава", мабілізавалі й загналі ў Смаленск. Так я быў у Чырвонай арміі да ратыфікацыі польска-савецкае ўмовы. 24-га красавіка 1921 г. я ўцёк з Чырвонае арміі дамоў. Удома я застаў толькі дзяцей. Жонка трагічна загінула - апалілася й памерла. Зноў пачалося цяжкае жыцьцё. Працы шмат, а грошай няма адкуль узяць. На боты грошай ня было, ды й лапці не заўсёды былі цэлыя.

Увосень 1922 года я быў выбраны беларускім паслом польскага Сойму, а пасьля, у 1928 г. - сэнатарам. Калі Сэнат быў распушчаны, я мусіў адбыць судовую кару - 2 гады цяжкае турмы. Адбыўшы яе, я зноў вярнуўся на гаспадарку, ды адначасна быў старшынёю рэвізійнай рады касы Стэфчыка, бяз ніякае ўзнагароды.

У 1939 годзе, калі прыйшлі бальшавікі, я пачаў працаваць настаўнікам у савецкай дзесяцігодцы. 20-га чэрвеня 1941 г. бальшавікі арыштавалі мяне разам з другімі беларусамі й павезьлі на ўсход. 2 дні пазьней пачалася вайна з немцамі, і мне ўдалося за Менскам уцячы ды вярнуца пешкі дамоў. Тут беларускі актыў выбраў мяне старшынёю беларускага вабласнога камітэту. Любча была першая мясьціна ў Наваградчыне, дзе быў вывешаны бел-чырвона-белы сьцяг, які беспераппынна вісеў да самага нашага адыходу на Захад. Пасьля навагрудзкі "Gebitskommissar" назначыў мяне, без мае згоды, бургаміcтрам Дзятлаўскага раёну. Там я быў да часу, калі немцкі фронт пачаў каціцца на захад. 3-га ліпеня 1944 г. давялося ўцякаць на захад, дзе й туляюся для сёньняшняга дня.

19.02.1954 г. Лювэн, Бэльгія.

## I

## ПАЛАЖЭНЬНЕ Ў НАШЫМ КРАІ АД 1920 г. ДА ВЫБАРАЎ 1922 г.

Палажэньне як сялянства, так і інтэлігэнцыі можна ахарактырызаваць адным словам: застрашанасьць. Гэта быў вынік ваеннага тэрору. Адных - інтэлігэнцыю - застрашвалі вязьніцай і высылкай у СССР, другіх - сялянства - розгай. Кожнаму селяніну неадчэпна зьвінела ў вушох "dwadzies'cia piec'". Народ, як чарапаха перад небясьпекаю, уцягнуўся ў сваю шкарлупіну й чуўна прыслухоўваўся да ўсходу. Аб "Wolni z wolnymi, ro'wni z rownymi" або "Za wasza wolnos'c' i nasza" (словы адозвы Пілсудзкага да беларускага народу падчас вайны) гаварылі з іроніяй і сарказмам.

Частка ўраду БНР пераехала спачатку ў Вільню, адтуль у Коўна, а потым у Чэскую Прагу, дзе й прабывала да канца другой сусьветнай вайны. Другая частка, на чале з А.Луцкевічам, зрабіла ўгоду з палякамі, ды пад іх крыльцам арганізавала ў Лодзі Найвышэйшую Вайсковую Раду. Яна праіснавала да канца польска-савецкай вайны. Пасьля сканчэньня вайны Рада сталася непатрэбнай палякам, якія яе й зьліквідавалі. Луцкевіч і Тарашкевіч ехалі з Лодзі ў Вільню як кандыдаты ў беларускія міністры, а прыехалі туды яе рэфэрэнты. Так старшыня БНР апусьціўся да становішча маленькага польскага ўрадоўца, здаўшы незалежніцкія пазыцыі на ласку сп.Пілсудзкага й ягонага акружэньня.

Я жыў у самай сялянскай гушчы й ня меў ніякага кантакту з віленскімі дзеячамі. Уся мая палітычная праца зводзілася да палітычных гутарак дзеля ўзьняцьця нацыянальнай сьвядомасьці навакольнага сялянства. Варочаючыся з працы ў полі ці з сенажаці, я заўсёды чуў пытаньні: "Васіль Цімафеевіч, што гэта будзе? Няўжо ня будзе гэтаму канца?" - "Пачакайце, грамадзяне, як бы ня было, а прыйдзе час, і вы скажэце сваё слова. Распусьцяць Сойм, будуць новыя выбары (праца Ўставадаўчага Сойму набліжалася ўжо да канца). Мы тады й павінны будзем пастарацца правесьці ў Сойм як найбольш сваіх кандыдатаў, якія й скажуць сваё важкае слова ды будуць нашымі абаронцамі, да каторых мы будзем зьвяртацца з усялякімі заявамі, просьбамі й скаргамі."

Нашая інтэлігэнцыя была нешматлікай. Невялікая групка, што была ў Вільні, арганізавала Беларускі Нацыянальны Камітэт з А.Луцкевічам на чале. Аб існаваньні гэтага Камітэту на правінцыі ніхто нічога ня ведаў і ня чуў. Сябры Камітэту жылі замкнутаю групаю ў Вільні й не навязвалі ніякіх кантактаў з вясковаю інтэлігэнцыяй. Усе баяліся паказаць сваё сапраўднае аблічча, стараючыся насіць маску лаяльнага грамадзяніна. Я асабіста нічым не адрозьніваўся ад іншых. Інтэлігэнцыя была няпрыкметнаю, як няпрыкметны кропелькі тлушчу, пяць грамаў якога былі кінутыя ў вялікі кацёл стравы. Вялізарны працэнт яе застаўся на ўсходзе й не таму, што яны сымпатызавалі бальшавікам, а толькі таму, што, ведаючы палякаў з гісторыі нашага народу, яны пабаяліся ехаць на Бацькаўшчыну. Інтэлігэнцыя, што жыла пад польскаю ўладай, як я ўжо сказаў, была застрашана магчымасьцю быць выкінутаю сілком на ўсход. Праваслаўная частка нашага народу, не выключаючы й вясковай інтэлігэнцыі, была настроена, я сказаў бы, не па-бальшавіцкі, а прарасейска, сярод яе пераважала русафільства. Сярод жа каталіцкай часткі большасьць была настроена паланафільска, за выняткам некаторых месцаў, такіх як Жодзішкі, з ксяндзом Гадлеўскім, Мядзьведзічы, з ксяндзом Татарыновічам, ды яшчэ некалькі іншых месцаў. Сярод каталіцкага сьвятарства была група беларускіх ксяндзоў-патрыётаў: Адам Станкевіч, Абрантовіч, Рэшаць, Стэповіч, Шутовіч, Гадлеўскі, рэктар каталіцкай духоўнай сэмінарыі ў Наваградку, прозьвішча якога я, на жаль, забыўся.

Праваслаўнае сьвятарства было разглядана палякамі як актыўны русафільскі элемэнт. Яно было пад падозраньнем і наглядам паліцыі. Сьведамых беларусаў-незалежнікаў сярод гэтага сьвятарства было вельмі мала, працэнт блізкі да нуля. Амаль усе сьвятары былі расейцы й па духу, й па паходжаньню.

## ВЫБАРЧЫ ЗАКОН

Каб зразумець прабег і вынікі выбараў у Заходняй Беларусі (так буду называць беларускія землі ў межах Польшчы), трэба затрымаць увагу на структуры выбарчага закону, выпрацаванага пад кіраўніцтвам кс.Лютаслаўскага й зацьверджанага Ўставадаўчым Соймам. У аснове гэтага закону была думка: дапусьціць у палаты па магчымасьці найменшую колькасьць прадстаўнікоў ад нацыянальных меншасьцяў - беларусаў, украінцаў, немцаў, жыдоў, ліцьвінаў і расейцаў. Таму акругі з пераважаючым няпольскім жыхарствам маглі паслаць менш сяброў палатаў, чым акругі з карэнным польскім жыхарствам. Была ўведзена г.зв. дзяржаўная ліста (Lista Pan'stwowa). Агульная колькасьць сяброў Сойму была 444, а Сэнату – 111. З гэтай колькасьці выбіралася непасрэдна жыхарствам 360 сяброў Сойму, а 84 прыпадала на дзяржаўную лісту. Падобны быў падзел і сэнатарскіх мандатаў. На жаль, ня памятаю сёньня, колькі мандатаў прыпадала на дзяржаўную лісту. Выдзеленыя для дзяржаўнай лісты мандаты, як пасольскія, так і сэнатарскія, дзяліліся вышэйшым выбарчым камісарам у Варшаве між партыямі, прапарцыянальна да агульнай колькасьці галасоў, паданых за тую ці іншую лісту на тэрыторыі ўсяе рэспублікі. Пры гэтым правам атрыманьня мандатаў з гэтага своеасаблівага дзяржаўнага рэзэрву карысталіся партыі, што атрымалі мандаты ня менш, як у 5-ёх розных акругах, хаця б толькі па адным мандаце на акругу. Гэтым адсоўваліся ад дзяльбы слабейшыя партыі ды ўзмацняліся мацнейшыя. Гэтая выбарчая хітрыка была накіравана галоўным чынам супроць нацыянальных меншасьцяў, з якіх ні адна, не выключаючы й украінцаў (Галіччына выбары байкатавала)), не змагла прыняць удзелу ў дзяльбе таму, што ні Валынь з Падляшшам і ні адна меншасьць не маглі правесьці дэпутатаў у 5-ёх акругах. Вось гэта й сталася прычынай аб'яднаньня ўсіх нацыянальных меншасьцяў у адной лісьце. Яны атрымалі з гэтага рэзэрву 12 мандатаў, якія й падзялілі між сабою.

Калі ліста была правамоцнай, трэба было, каб яе падпісалі ня менш за 50 выбаршчыкаў. Першы, што падпісаўся, лічыўся ўпаўнаважаным лісты пры яе разглядзе акруговым выбарчым камісарам, які іх і нумараваў паводля парадку паступленьня. Лісту нацыянальных меншасьцяў у Наваградзкай акрузе падпісала мая вёска й атрымала N 16.

(Працяг будзе)

 



# ПЕРШЫ Ў ГІСТОРЫІ ПАСОЛ БЕЛАРУСІ Ў ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

У маі 1994 года Генэральнае консульства Рэспублікі Беларусь у Лондане было пераўтворана ў Пасольства нашай дзяржавы ў Велікабрытаніі. Першым паслом у гісторыі нашых двухбаковых адносін з Брытаніяй быў прызначаны Ўладзімір Сянько, які да гэтага часу прадстаўляў Беларусь у Польшчы. Згодна з пратаколам краіны знаходжаньня, спачатку Яго Экселенцыя меў сустрэчы з кіраўніцтвам Форын Офіса: Дзяржаўным Сакратаром замежных справў і па справах Садружнасьці Дугласам Хэрдам, Міністрам Форын Офіса Дугласам Хоггам, Кіраўніком Яе Вялікасьці дыпляматычнай службы сэрам Дэвідам Гілмарам. Зразумела, што ўсе першыя кантакты зьяўляюцца найбольш адказнымі, бо ад таго, як яны пачаліся, залежыць, як справа пойдзе далей. Галоўнай падзеяй траўня стала ўручэньне Вярыцельных грамат Яе вялікасьці Каралеве Элізавеце II Паслом Беларусі.

Падзея гэта адбылася 26 мая 1994 года ў каралеўскім Букінгемскім палацы. За некалькі дзён да гэтага гістарычнага моманту былі ўзгоднены ўсе моманты, зьвязаныя з працэдурай: куды пад'едуць каралеўскія карэты, колькі часу зойме шлях да палаца й г.д. Згодна з традыцыяй, што не зьмяняецца ўжо доўгія гады, аўдыенцыя ў каралевы для ўсіх паслоў прызначаецца на поўдзень. Каб не вельмі турбаваць і без таго перагружаныя вуліцы Лондану, было вырашана запрасіць падаць карэты да бліжэйшага гатэля, ад якога без цяжкасьцяў можна спакойна (наколькі гэта магчыма) даехаць да палаца. Калі спытаецеся, чаму спакойна немагчыма, то адкажу проста - каб сабраць усе фатаздымкі, зробленыя пад час руху да каралеўскага палаца ў адну стужку, то на дзьве серыі я не ведаю, але на адну хапіла б гэтага матэрыялу. Не было зашмат паліцэйскіх кардонаў, што спыняюць рух і даюць карэтам магчымасьць безперашкодна рухацца да палаца, але было вельмі багата турыстаў, якія выкарысталі магчымасьць ня толькі паглядзець, як зьмяняецца каралеўская гвардыя, але каго возіць каралеўскі экіпаж.

Дзень быў цёплы, гуляў невялікі ветрык, то пачынаўся, то зноў зьнікаў некуды дождж. Карэты пад'ехалі да гатэля "Дорчэстэр" за 27 хвілін да поўдня, а калі мераць тым днём, то за 27 хвілін да сустрэчы з каралевай. Маршал Дыпляматычнага Корпуса запрасіў Пасла Беларусі сесьці ў карэту. Чырвоны экіпаж потым павольна рушыць па Парк Лэйн, па плошчы Велінгтона й пад крыкі "Зважай" (бо як раз зьмянялася гвардыя ля палаца) адчыненыя заранёў вароты пушчаюць нас у Букінгем.

"Яго Экселенцыя Пасол Рэспублікі Беларусь" - так быў прадстаўлены Ўладзімір Сянько каралеве. І тут прыйшло ў галаву: людзьмі звацца! Ці ж не чакалі мы ўсе гэтага часу? Ці не збываецца тая адвечная мара?

Аўдыенцыя працягвалася каля дваццаці хвілін. Каралеве было цікава даведацца аб Беларусі, таксама аб тых некалькіх тысячах беларусаў, што жывуць у яе краіне.

Пасьля таго, як зноў на карэце вярнуліся ў гатэль, Пасол Беларусі Ўладзімір Сянько згодна з пратаколам запрасіў на кактэйль Маршала Дыпляматычнага Корпуса сэра Джэймса й яго намесьніка спадара Фіггіса. Але самымі дарагімі гасьцямі былі нашы людзі: спадарства Дамінікі, спадарыня Міхалюк, айцец Аляксандар Надсан, спадар Зданковіч, спадарства Дзейка, спадар Весялкоўскі і інш. Звычайна, што на такія мерапрыемствы запрашаюцца Паслы суседніх краін, і гэты раз не быў выключэньнем, бо Экселенцы, рэпрэзэнтуючыя Ўкраіну, Польшчу, Расею, Летуву, Латвію, Эстонію ў Брытаніі, прыйшлі, каб павіншаваць першага ў гісторыі Беларусі Пасла ў Вялікай Брытаніі Яго экселенцыю Ўладзіміра Сянько з пачаткам працы. Яны ўсе прыйшлі, каб ад імя тых краін, якія іх даслалі ў Лондан, выказаць павагу Беларусі ў асобе чалавека, рэпрэзэнтуючага рэспубліку ў Лондане.

Многа было сказана ветлівых і цёплых слоў у той дзень, але гэта толькі пачатак, толькі першыя крокі, зробленыя па гэтай зямлі Старога Сьвету. Галоўнае, што гэтыя крокі спакойныя й разважлівыя, бы крокі вопытнага чалавека за плугам, які разумее, што гэту дзялку можна абрабіць толькі несьпяшаючыся. Зразумела, што напярэдзе ў Пасольства надзвычайна складаная й крапатлівая праца па развіцьцю двухбаковых міждзяржаўных сувязей, па стварэньню ў Англіі багатага й цывілізаванага іміджу Бацькаўшчыны. Тым не менш вельмі важна тое, што першая баразна пройдзена з годнасьцю, на высокім прафэсійным узроўні.

**А.ЯКАВІЦКІ.**



**ПОЛЬШЧА, САКУЛКА. А ЗДАЕЦЦА, ШТО ГОРАДНЯ.**

**Фатаграфавала А.БІБІКАВА.**

# БАРБАРА СТРЭЙЗАНД: МІНУЎШЧЫНУ – З МАЛАТКА!

Знакамітая акторка й сьпявачка Барбара Стрэйзанд перажывае эпоху вялікіх зьменаў. Летась 51-гадовая амэрыканская зорка зьяўлялася на людзях часьцей, чым гэта было за апошнюю чвэрць стагоддзя. Барбара абвясьціла, што распачынае вялікую чыстку ўласнай гаспадаркі ад жаданьня ўладкаваць асабістае жыцьцё.

Першай ахвярай чысткі зьявілася выдатнейшая калекцыя прадметаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, што да апошняга часу ўпрыгожвала інтэр'еры сямі палацаў Стрэйзанд: пяці на Малібу, аднаго ў Бэвэрлі Хілз і аднаго ў Манхэтэне. Само па сабе раставаньне Б.Стрэйзанд -калекцыянеркі са сваімі набыткамі нічога ня варта. Але захад поп-зоркі, кружэлкі якой і дагэтуль складана набыць у Амэрыцы, выклікаў сапраўдную буру водгукаў.

Дзякуючы занадта празмернай увазе рэпарцёраў першы ж крок да ачышчэньня Барбары стаў падзеяй. Прадстаўнікі аукцыёна "Крысьці" паціралі рукі ад такой рэкламы. Заўчасна і ўрачыста абвесьцілі аб дзьвухдзённым аукцыёне пад назовам "Прадметы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва XX стагоддзя з калекцыі Б.Стрэйзанд." Па папярэднім адзнакам экспэртаў Барбары, маёмасьць якой ацэньваецца прыкладна на 66 мільёнаў фунтаў сьцерлінгаў, аукцыён дасьць ня менш дзьвух мільёнаў прыбытку.

Правёўшы дзяцінства ў галечы, Стрэйзанд захапілася калекцыяваньнем на самым пачатку свайго зорнага шляху. У 21 год на ганарар ад брадвэйскага шоу "Сьмешная дзяўчынка" выдаткавала 33 тысячы фунтаў за нямецкі інкруставаны столік пачатку XX стагоддзя.

Ачышчэньне не адзіная прыкмета ў перамене паводзін Барбары. Амаль 25 год таму, адмовіўшыся даваць канцэрты, яна ўжо чатыры разы выходзіла на сцэну. Самым вядомым было яе выступленьне ў студзені 1993 года, на цэрымоніі інаўгурацыі прэзідэнта Клінтана. Восем год таму яна перастала даваць інтэрв'ю пасьля таго, як журналіст "Лос-Анжэлес таймс" ня правільна, на яе думку, патрактаваў яе словы.

Зараз яна любіць сьцьвярджаць, што яе зусім не абходзіць грамадзкая думка. Яна наноў ходзіць да рэстарацый, прысутнічае на званых вечарынках эстраднай эліты. Што здарылася? Можа, натхніў яе маладосьцю й рамантызмам раман з 24-гадовым тэнісістам Андрэ Агасі? Можа, паўзьдзейнічала на паводзіны зоркі лепшая сяброўка Дона Кэран? Можа, ў гэтым ёсьць заслуга маладога й энэргічнага прэзідэнта ЗША?

Большасьць тых, хто ведае Стрэйзанд, выходзяцца на апошняй версіі. Лічыцца, што сягнуўшы фэнаменальнага посьпеху ў музыцы й на сцэне, будучы адзінай жанчынай-прадзюсэрам і рэжысёрам, сцэнарыстам і выканаўцай галоўнай ролі ўласнага фільму, Стрэйзанд захавала ў душы няўпэўненасьць, якая зыходзіць ад маці-удавы, што змалку згадвала Барбары нібыта аб адсутнасьці якіх-кольвечы акторскіх дадзеных. Большае, на што магла разьлічваць дачка, па словах маці, - гэта на пасаду сакратаршы.

Пераканаины дэмакрат, Стрэйзанд апошнія 25 год не шкадавала грошай на фінансаваньне дэмакратычнай партыі ЗША. А пад час апошняй выбарчай кампаніі вырашыла далучыцца да каманды Клінтана. Цяпер яна сталы госьць Белага дому. Тут яна амбітна вядзе прапаганду такіх блізкіх ёй ідэалаў, як абарона грамадзянскіх свабод, роўныя правы кабет і мужчын, папярэджаньне аб небясьпецы СНІД, ахова акаляючага асяроддзя. Ідуць размовы аб вылучэньні яе ў сэнат.

Барбара Стрэйзанд адмовіла раскрыць сакрэт, куды скарыстае грошы, атрыманыя ад продажу калекцыі. Адзінае вядома, яны ня будуць страчаны на новыя строі.

"Я жадаю выйсьці да людзей і расказаць ім аб тым, у што веру, - заяўляе Барбара. - І калі пасьля такіх сустрэч хтосьці не пажадае слухаць мае сьпевы, глядзець мае фільмы, - я буду думаць, што так і трэба, бо супраць свабоды густаў ня маю нічога."

**(з.д.)**

# НЯДЗЕЛЬНАЯ ІМША ГУЧЫЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ, АЛЕ КАТАЛІКІ ЛІЧАЦЬ, ШТО ГЭТАГА МАЛА

**Пад час разьвітальнай імшы ў Фарным касьцёле Горадні нунцыя Габрыэла Монтагія гарадзенскія беларусы-каталікі перадалі на імя Яго Экзэстыленцыі ліст. Якіх пытаньняў тычыцца зьмест ліста, што хвалюе гарадзенскіх беларусаў-каталікоў - на конт гэтага карэспандэнт "Пагоні" гутарыць з адной з аўтарак ліста спадарыняй А.Шунэйка.**

- Ведаеце, калі кажуць, што на Беларусі звыш 900 тысяч вернікаў-каталікоў, то чамусьці забываюць удакладніць, што значную частку з іх складаюць беларусы. Нам жа, беларусам-каталікам, крыўдна, што нас успрымаюць як нейкую меншасьць у родкай дзяржаве. Таму, каб зьліквідаваць гэты прагал, мы й напісалі ліст да яго экзэстыленцыі. Магчымасьць перадаць была вельмі спрыяльная, менавіта пад час разьвітальнай імшы.

**- Давайце пра зьмест ліста пагаворым падрабязьней.**

- Працяглы час у нашым Гарадзенскім Фарным касьцёле штотыднёва а 15 гадзіне служыцца імша на беларускай мове. Стала выступае з беларускімі сьвятымі сьпевамі хор "Бацькаўшчына". Служаць імшу, на якую зьбіраецца багата людзей, па чарзе два ксяндзы. І гэта фактычна ўсё, што маюць у Горадні каталікі-беларусы. Гэтага нам мала. Мы жадаем, каб нашы дзеці маглі хадзіць да нядзельнай школкі й вывучаць там катэхізіс не на польскай, а на роднай мове. Таксама хочам, каб вёўся катэхізіс і для дарослых. З намі многія сьвятары каталіцкай царквы не жадаюць лічыцца. Таму ў лісьце мы й згадваем, што аўтарытэт каталіцкай царквы значна ўзрасьце, калі да дзяржаўнай мовы, нашых традыцый будуць адпаведныя адносіны. Нельга лічыць, што Сьвяты Каталіцкі касьцёл на Беларусі - гэта своеасаблівая польскасьць. Мы жадаем павагі, разуменьня.

**- Хто з сьвятароў касьцёла спрыяе вашым шчырым патрабаваньням?**

- Адзіны, хто дапамагае нам, - гэта айцец Анатоль. Менавіта з яго удзелам вырашаецца мноства пытаньняў. З яго дапамогай складзены й ліст да нунцыя, у якім гарадзенскія беларусы-каталікі тактоўна нагадваюць, што адной нядзельнай імшы на беларускай мове ўжо недастаткова.

**Распытваў Г.АСТРОЎСКІ.**

# ПРЫЙШОЎ ЧАС АСУДЗІЦЬ КАМУНІЗМ

З 25 па 26 чэрвеня ў Варшаве адбывалася другая канфэрэнцыя Міжнароднага камітэту "Нюрнберг II", цэнтар якога зараз знаходзіцца ў Швэйцарыі. У ёй узялі ўдзел прадстаўнікі Канады, Швэйцарыі, Вялікабрытаніі, Уетнаму, Летувы, Польшчы й нават адзін прадстаўнік з Беларусі - Анатоль Астапенка з Менску, прадстаўнік Беларускай нацыянальнай партыі.

Канфэрэнцыя разглядала адно з самых набалелых і цікавых пытаньняў, якое ўжо даўно чакае свайго вырашэньня - аб злачынстве камунізма ў сьвеце. Канфэрэнцыяй было прынята рашэньне: стварыць міжнародны трыбунал, каб правесьці зараз Нюрнберг-II і асудзіць камунізм як антычалавечую сыстэму. Як заявілі ўдзельнікі канфэрэнцыі, мы маем маральны абавязак перад усім сьветам давесьці да публічнага суда гэтую сістэму дзеля гістарычнай справядлівасьці.

**А.КУЛІК.**

 





# АПОШНЯЯ СТАРОНКА

## АКУЛЯРАЎ МОЖНА ПАЗЬБЕГНУЦЬ

(Пачатак на 3-й стар.)

**- Калі блізарукасьць выяўлена, то як яе лекаваць?**

- Сучасная мэдыцына аддае перавагу лекаваньню хірургічным мэтадам.

**- Якія апэрацыі можна зрабіць тут, у Горадні?**

- На кафэдры афтальмалогіі і хвароб вока Гарадзенскага Дзяржаўнага мэдыцынскага інстытута выконваюцца ў асноўным апэрацыі па ўмацаваньню склеры.

**- Раскажыце пра амбулаторнае лекаваньне?**

- Існуе вялікі й разнастайны комплекс спэцыяльных практыкаваньняў для замацаваньня мышцаў павек, паляпшэньню току крыві:

1. Моцна заплюшчыць на 3-5 сек. вочы. Паўтарыць практыкаваньне 6-8 разоў.
2. Хутка міргаць на працягу 1-2 хвілін
3. Глядзець прама перад сабой на прадмет 2-3 секунды. Колькасьць практыкаваньня - 10-12 разоў.
4. Выцягнуць руку перад сабой і глядзець на палец, пакуль ён не пачне падвойвацца.
5. Закрыць павекі і масаваць іх пяшчотнымі рухамі пальцаў.

Гэта асноўныя заняткі, якія кожны хворы можа выконваць самастойна. Да таго ж неабходна займацца спортам - бег, басэйн, стральба з лука ці стрэльбы.

**- Якую ежу вы парадзілі б людзям з гэтым захворваньнем?**

- Моркву, чырвоныя буракі, капусту, салату, бабовыя, яблыкі, гарэхі, пятрушку, цыбулю. Ўсе гатункі садавіны й гародніны неабходна есьці кожны дзень і асабліва дзецям.

**Распытваў Г.АСТРОЎСКІ.**



**ШТО БЫ ГЭТА ЗНАЧЫЛА?**

**Фатаграфавала А.Бібікава.**

## «ДЫНАМА» ПАДОБНА НА САПСАВАНУЮ МАШЫНУ

11 месяцаў і 1 дзень - такім па працягласьці аказаўся нацыянальны чэмпіянат Беларусі па футболу. Калі яго характарызаваць толькі лічбамі, то атрымаецца вельмі цікавая арыфметыка. Напрыклад, што тычыцца колькасьці гледачоў на трыбунах. 16 клюбаў правялі 240 сустрэч, на якіх пабывала 591825 балельшчыкаў, або 2466 чалавек у сярэднім на кожнай гульні (у мінулым чэмпіянаце - 2320). Найбольшая сымпатыя гледачоў аддаецца бабруйскаму "Фандоку" -3572, "Дняпру" з Магілёву - 3235 і віцебскаму КІМу - 3032. На пятым месцы гарадзенскі "Нёман" - 2820 і толькі на дзевятым - чэмпіён "Дынама" з Менску.

Цяпер пра галы. Усяго забіта 513 мячоў, сярэдняя выніковасьць - 2,14 (дарэчы, гэта самы нізкі паказчык у гісторыі чэмпіянатаў). Самая выніковая каманда - "Дынама" (Менск) - 76 галоў, лепшы бамбардзір - дынамавец Пятро Качура (21). Нават на гэтым сьціплым узроўні паказчыкі "Нёмана" зусім нікуды: толькі 29 галоў, 3 з якіх - за тэхнічную перамогу. Болей за другіх забіваў Сяргей Саладоўнікаў - 5 мячоў (у 11 праведзеных гульнях).

Пра лічбы сказана невыпадкова, бо яны адлюстроўваюць справы ў нашай футбольнай гаспадарцы. На мой погляд, беларускі футбол сэзону 1993-1994 гг. не зрабіў значнага крока наперад. Паспрабую гэта пракамэнтаваць. Так, менскае "Дынама" у красавіку-траўні нагадвала хутчэй на будучага чэмпіёна, а клюб, які калісьці нешта ўмеў рабіць, цяпер і тое забыў. І калі б не восьненьскі адрыў у вачках, турбот у сталічных футбалістаў было б нямала. Быў у сярэдзіне другой паловы чэмпіянату й такі выпадак, калі "старэйшага брата" нават дагнаў "маладзейшы" - "Дынама-93".

Ды толькі ў гэтай гонцы "сокалы" Івана Шчокіна неўзабае згубілі гульню й адсталі ад чэмпіёна аж на 9(!) пунктаў. І ўсё ж І.Шчокін накрыў узмахам свайго крыла дынамаўскую дружыну. Прычым ня толькі эпізадычна ў сустрэчы паміж сабой, але, бадай, надоўга, прыняўшы з 25 чэрвеня кіраўніцтва галоўнай камандай краіны. У сваю чаргу, "Дынама-93" узначаліў знакаміты ў недалёкім мінулым форвард Віктар Сокал, яго намесьнікам стаў не меней вядомы трэнер Веніямін Арзамасцаў.

Перамены ў дынамаўскім штабе, якія пачаліся пасьля звальненьня Міхаіла Вергеенкі, даволі нечаканыя. Але галоўнае ня гэта. Куды важней ведаць, што прынясе нам меўшая месца "рэвалюцыя". Пакуль спадзявацца на яе добры фінал няма падстаў. І перш за ўсё таму, што з Менску адбывае за мяжу чарговая партыя футбалістаў. У ізраільскі клюб "Макабі" з Тэль-Авіву зьбіраецца дынамаўская "ракета" Юры Шуканаў, у Галандыю - Эрых Яхімовіч, лепшы абаронца Аляксандр Тайкоў "навастрыў лыжы" да Нямеччыны.

Між тым, мінуўшы чэмпіянат не запаліў новых "зорак". Да таго ж, гульня лідэраў Дземенкаўца, Маёрава, Бялькевіча, Бараноўскага значна панізілася ў клясе. Шчокін пры ўсім жаданьні, нават падмацаваўшыся гульцамі з "Дынама-93", ня хутка створыць моцны калектыў. Хутчэй за ўсё "Дынама", з пункту гледжаньня майстэрства й зьместу гульні будзе бліжэй да КІМа, "Дняпра", "Фандока"...

Дарэчы, пра магілёўскі клюб. Ня ведаю, ці быў сэнс "Дняпру" прадаваць расейскай камандзе "Уралмаш" сваю супэрзорку Міраслава Рамашчанку, прычым толькі за 30 мільёнаў "зайцоў", калі рэальная цана вышэйшая як мінімум у 50 разоў. Хто тут зноў пагрэў рукі - не бяруся казаць. Але "Дняпро" згубіў ня толькі цікавага форварда, вялікія грошы, але й гульню, якой раней так па-майстэрску запраўляў Рамашчанка. І "Дняпро" "паплыў".

Нават калі стабільны КІМ забуксаваў на шэрых нулявых нічыіх і апынуўся на чацьвёртай прыступцы, магілёўская каманда разгубілася й нечакана склала зброю ў барацьбе з трэцяе месца. А інтрыга насьпявала ндрэнная. Віцебскі клюб, між тым, сам ня здолеў саштурхнуць на фінішы з другога месца "Дынама-93" і аваладаць сярэбранымі мэдалямі, бо вельмі ж квёла крочыў па "старых дарогах", дзе, як вядома, толькі "Будаўнік" можа быць гаспадаром. І так, без аніякага намёку факт: падарожжа да Францыі для КІМа "выбіў" падчас замежнай камандзіроўкі старадарожскі трэнер Аляксандр Жукавец. Ну як мог потым віцябляні Уладзімер Трубіцын пакрыўдзіць калегу? Так было ці не, але лік 0:0 застаўся непарушны ў гэтым "гістарычным" матчы.

Яшчэ пяць калектываў першай лігі - бабруйскія "Фандок" і "Шыньнік", менскае "Тарпеда", берасьцейскае "Дынама" і ФК "Маладзечна" - разьмясьціліся з 5 па 9 месцы. Так, менавіта, можна было прадказаць яшчэ год назад. На першы погляд, выпадковасьць у гэтай кампаніі "сераднякоў" мае дачыненьне толькі да "Шыньніка". Але закон рынку й тут спрацаваў беспамылкова: калі цэны на бабруйскія шыны расьлі ў гэаметрычнай прагрэсіі, то й заводзкі клюб папаўняў свой багаж ачкоў тымі ж тэмпамі. А ўвогуле, "Шыньнік" - сымпатычная, непрадказальная каманда, волю якой яшчэ доўга будуць памятаць нашы аўтарытэты. Зрэдку прыемнае ўражаньне заставалася ад гульні "Маладзечна" й "Фандока". Першы клюб, аднак, расчараваў у паўфінале Кубка Беларусі, прайграўшы таму ж "Фандоку". А бабруйчане вельмі нязграбна змагаліся ў фінале, дзе ўступілі перамогу з лікам 1:3 менскаму "Дынама" - новаму ўладальніку Кубка.

Пасьля гадовай прапіскі ганаровага трафею ў Горадні ён наноў вянуўся ў сталіцу. Але ж гэта не адзіная страта ў мясцовым "Нёмане".

Так глыбока на дно каманда яшчэ не апускалася. Сьціплае адзінаццатае месца ў турнірнай табліцы, толькі 8 перамог у 30 гульнях. Праўда, можна зазначыць, што "Нёман" менш за ўсё змагаўся за высокае месца, а загартоўваў маладых гульцоў каманды. Ці будзе з гэтага плён, калі клюб застанецца без лідара? Маю на ўвазе Сяргею Гурэнку, які атрымаў запрашэньне ад кіеўскага "Дынама" і, мабыць, хутка апынецца на Ўкраіне.

Няцяжка прадбачыць, што здарыцца ў такім разе з "Нёманам", калі зноў адыдуць мацнейшыя. Няўжо напаткае лёс "Будаўніка" з Старых Дарог, які цяпер прадбўжыць свой шлях у другой лізе?

А лічбы й на самой справе даюць шмат падстаў для роздуму, часьцей за ўсё сумнага. Бадай, толькі адна з іх цешыць - гэта 3. Такі менавіта ўзрост мае Беларускі нацыянальны *футбольны* чэмпіянат. Ён ужо вырас з пялюшак, але яшчэ ходзіць у кароткіх портках. Расьце.

**Г.ВАСІЛЕВІЧ.**

## КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

**За мінулы тыдзень на тэрыторыі вобласьці зарэгістравана 193 злачынствы й 41 здарэньне. У іх ліку 3 забойствы, 23 цялесныя пашкоджаньні, 5 рабаваньняў, 26 крадзяжоў дзяржаўнай і 77 - асабістай маёмасьці.**

**У дарожных здарэньнях адзін чалавек загінуў і 12 - паранена.**

ГОРАДНЯ

Ракавой аказалася купальская ноч для двух гарадзенцаў. Труп аднаго з іх быў знойдзены ў яры па вул.Белуша. Ускрыцьцё паказала: у мужчыны (каля 35 год) была трэшчына чэрэпа й кровазьліцьцё ў галаўны мозг, якія й сталі прычынай сьмерці.

Яшчэ адзін гарадзенец, 57-гадовы пэнсіянэр з амаль такімі ж цялеснымі пашкоджаньнямі быў зьмешчаны ў першы гарадзкі шпіталь, дзе праз двое сутак памёр.

А раніцай у нядзелю, каля дома N 123/1 па вул.Дзяржынскага быў знойдзены з шматлікімі цялеснымі пашкоджаньнямі труп маладога мужчыны, які, магчыма, упаў з балкона ці вакна.

Праз суткі асоба пацярпелага была ўстаноўлена. Ім аказаўся раней судзімы гарадзенец М.

Ва ўсіх трох выпадках узбуджаны крымінальныя справы, вядзецца сьледзтва, якое, магчыма, дапаможа адказаць на пытаньне, што зьявілася прычынай сьмерці: няшчасныя выпадкі альбо злачынныя дзеяньні?

Аб выніках "КХ" праінфармуе чытачоў дадаткова.

* * *

Ноччу ў нядзелю трое гарадзенцаў, двое нідзе не працуючых і рабочы-будаўнік, нагледзелі 7-мятровы медны кабель, які потым скралі з тэрыторыі Бэрнардынскага касьцёлу. Але, як ужо неадночы здаралася, на шляху зламысьнікаў своечасова аказаўся нарад аб'яднаньня "Ахова".

* * *

У пятніцу ў Кастрычніцкі РАУС зьвярнулася 16-гадовая навучэнка ПТВ-41, якая літаральна заявіла наступнае: два дні таму, калі яна ў нецьвярозым стане "адпачывала" на лаўцы ля кінатэатра імя Пушкіна, нехта зьняў з яе завушніцы.

Здаецца, такім чынам можна згубіць ня толькі завушніцы...

ГАРАДЗЕНСКІ РАЁН

Раптоўна разбагацелі шукальнікі скарбаў, якім удалося знайсьці схованку, дзе знаходзілася тысяча "даляраў" і 8 залатых пяцірублёвак царскай чаканкі.

Але "шчасьліўцы" не зьбіраліся здаваць скарб дзяржаве, каб атрымаць законную чвэрць ад кошту знаходкі. Аднак схованка знаходзілася ў падвале дома прараба М.П., які й заявіў аб гэтым у міліцыю.

СЛОНІМ

"Крадзёж стагоддзя", а дакладней - спроба крадзяжу зафіксавана ў в.Міжэвічы. Там двое мясцовых абібокаў прабраліся ноччу ў незачынены дом пэнсіянэркі й меліся скрасьці 13 кг сала й 3 кг вэнджаніны. Але нечакана зьявілася гаспадыня. Ад такой нечаканай злодзеі пакідалі ўкрадзенае й уцяклі, што, дарэчы, не выратавала іх ад пакараньня - абодва затрыманы.

БЕРАСТАВІЦА

Відаць, не думаў 50-гадовы жыхар в.Валатынь, што за нейкія там тры каністры апынецца за кратамі - у ізалятары часовага ўтрыманьня. Якая дробязь - тры пяцілітровыя каністры! Можа яно й так, але ў скрадзеных з саўгаснага складу каністрах знаходзілася ядахімікаты, якія затрыманы, на сваю бяду, выліў на зямлю. А вядома ж, што кошт ядаў у 5-6 разоў перавышае кошт ёмістасьцяў.

**Г.СЫСОЙ.**

## Гарадзенская Вабласная Рада БНФ заклікае

У гэты складаны й цяжкі для нашай Бацькаўшчыны, Беларусі, час, калі ўладныя намэнклятурныя структуры раскрадаюць і распрадаюць здабыткі нашага народу, выступаюць супраць беларускай незалежнасьці, мовы й культуры, усім, каму не абыякавы лёс нашай дзяржавы, трэба аб'яднацца пад штандарам Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". Уступайце ў БНФ!

Пішыце на адрас: 230025, г.Горадня, а/с 139. Тэлефануйце штодзень з 9.00 да 17.00 па тэлефоне 45-41-83.



**"ПАГОНЯ"**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА".**

**Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.**

**Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.**

**Газэта выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.**

**Індэкс 63124. Ліцэнзія № 465.**

**Фотанабор, афсэтны друк.**

**Гарадзенская вабласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.**

Заказ 2615.

Тыраж 3713 асобнікаў.